**№№169–170 (3708–3709)**

30 кастрычніка 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

***Вас чакаюць на пошце, а мінчан яшчэ і ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку». Падпіска на «Народную Волю» на студзень—чэрвень 2013 года ідзе поўным ходам.***

# Няўжо беларусы забіваюць апошні цвік у сваю дамавіну?

*У Магілёве трэці год існуе адзіны ў горадзе беларускамоўны клас. Паўтара года ў ім вучылася трое дзетак. Цяпер засталася толькі адна вучаніца — Ялінка Салаўёва.*



Бацькі шукаюць ёй аднакласнікаў. Пошукі, аднак, плёну не даюць.

Бацькоў, што жадаюць аддаць дзяцей у малакамплектны клас, у горадзе няма.

За плячыма Ялінкі Салаўёвай — беларускамоўная група ў дзіцячым садку. Яе адкрыцця, як і класа ў сярэдняй школе №1, дамагліся бацькі. У садкоўскай групе дзетак было шасцёра, а вось у беларускамоўны клас бацькі аддалі толькі Ялінку. Пасля года вучобы ў самоце да яе далучыліся яшчэ двое дзетак, брат і сястра, аднак праблемы ў сям'і вымусілі бацькоў іх з класа забраць. Палову мінулага навучальнага года і пачатак гэтага Ялінка вучыцца па-беларуску зноў адна.

"Я разумею, калі яна адна, то ёй больш увагі, індывідуальны падыход. Але, з другога боку, я клапачуся пра яе сацыяльны, псіхалагічны стан, каб ёй было камфортна. Я за тое, каб было дзетак больш. У нас ужо 3-і клас, і нам асабліва няма на што разлічваць, але ўсё адно хочацца, каб у ім было хаця б больш за адну Ялінку. Два вучні — было б добра", — разважае маці вучаніцы Надзея Салаўёва.

Усе папярэднія гады сям'я Салаўёвых шукала вучнёўскую кампанію для сваёй дачкі. Распаўсюджвалі ўлёткі на школьных кірмашах, запісвалі ролікі на тэлебачанні, хадзілі да чыноўнікаў па дапамогу. Мясцовыя грамадскія актывісты дапамагалі, але, як прызнае Надзея Салаўёва, плёну гэта не дало.

"Бацькі не адважваюцца аддаваць дзяцей у некамплектны класс, — кажа жанчына. — Не хочуць, як кажуць, псаваць жыццё сваім дзецям. Калі ў нас уладная вертыкальная сістэма, то я лічу, што было б дастаткова выдаць які загад, і дзеткі прыйшлі б у клас. Няма зацікаўленасці ні ў кога ў развіцці класа. Зацікаўленасць ёсць толькі ў нас і ў настаўніцы, якая там працуе".

Сама Ялінка Салаўёва гаворыць пра свае школьныя будні не надта ахвотна. З бояззю адводзіць вочы ад журналіста з ягонымі пытаннямі. На некаторыя пагадзілася адказаць, толькі калі іх задала маці.

**Надзея Салаўёва**: Ты хочаш вучыцца адна ў класе? Ці каб болей было дзетак?

**Ялінка**: Больш. Ну, тры, бо надта сумна адной!

**Надзея Салаўёва**: А хацела б вучыцца ў рускамоўным класе?

**Ялінка Салаўёва**: Не, бо мне падабаецца беларуская мова.

Сям'я Салаўёвых з непакоем чакае сканчэння дачкой чатырох класаў, бо ў пятым трэба будзе больш настаўнікаў. "Наколькі я бачу, адміністрацыя спадзяецца, што Ялінка пойдзе ў звычайны 5-ы клас, — непакоіцца маці Ялінкі. — Яны пакуль не робяць, як мне падаецца, захадаў, каб знайсці беларускамоўных настаўнікаў па такіх адмысловых прадметах. Нам яшчэ адзін год, і я, шчыра кажучы, не ведаю, што будзе, я апасаюся... Але мы не пойдзем у рускамоўны клас".

Калі клас адчыняўся, то ў аддзеле адукацыі запэўнівалі, што праблем з навучаннем па-беларуску не будзе. Такой пазіцыі трымаюцца чыноўнікі, і цяпер так, прынамсі, заяўляецца.

Дык чаму ў чатырохсоттысячным горадзе толькі адзін беларускамоўны клас, у якім вучыцца адзіная вучаніца? З такім пытаннем звяртаюся да кіраўніка гарадской арганізацыі ГА ТБМ **Алега Дзьячкова** (суполка разам з бацькамі дамагалася адкрыцця беларускамоўнай групы ў садку, а затым і класа):

— Бацькі баяцца, што ў беларускамоўных дзяцей не будзе ніякіх перспектыў. У нас ніводнай вышэйшай беларускамоўнай навучальнай установы. Па-другое, яны баяцца, што будуць цяжкасці з навучаннем. Сапраўды, з падручнікамі, з дапаможнікамі ёсць цяжкасці ў нашай краіне.

***

***Вось такая, скажам, трагічна-сумная інфармацыя з'явілася днямі на сайце Радыё Свабода. Няўжо ўсё гэта праўда? Няўжо беларусы забіваюць апошні цвік у сваю дамавіну? "Народная Воля" вырашыла правесці сваё журналісцкае расследаванне.***

**ЗВАНОК У МАГІЛЁЎ**

## Так, праўда...

Аказваецца, гэта праўда: у Магілёве, дзе ў 43 сярэдніх школах і чатырох гімназіях атрымліваюць адукацыю каля 33 тысяч дзяцей, толькі адна дзяўчынка — Ялінка Салаўёва — вучыцца па-беларуску!

У горадзе няма ніводнай беларускамоўнай школы, ніводнай беларускамоўнай гімназіі, ніводнага паўнавартаснага беларускамоўнага класа.

Які сорам! Якая трагедыя! Пра якую любоў да Беларусі, пра які патрыятызм можна гаварыць?!

І ў гэты ж час усе — ад шараговага настаўніка да галоўнага вертыкальшчыка горада — робяць выгляд, што нічога не здарылася. А на самай справе — нацыянальная катастрофа! Дзе, у якой яшчэ краіне, у якім горадзе з 400-тысячным насельніцтвам толькі адна дзяўчынка вучыцца на роднай мове?

Манкурцтва, поўнае забыццё і адвяржэнне ўсяго свайго, роднага, і ў першую чаргу мовы — смерць нацыі.

**РУБАМ!**

*У Беларусі, у тым жа Магілёве, нямала грамадскіх арганізацый, якія абавязаны былі забіць у званы, каб вырваць з палону адзіноты, ізаляванасці ад равеснікаў безабаронную Ялінку Салаўёву. Што яны зрабілі для таго, каб дапамагчы ёй у той складанай сітуацыі, у якую яна патрапіла?*

***Алег ТРУСАЎ,***
*старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны":*

## «Што мы можам зрабіць, калі нават нашы дэмакраты аддаюць дзяцей у рускамоўныя класы?»

— Я, натуральна, ведаю, што адбываецца з беларускамоўнымі класамі ў Магілёве, — кажа суразмоўца.

**— Якія крокі зрабілі вы асабіста і ваша арганізацыя, каб сітуацыя змянілася?**

— Мы робім усё, што ў нашых сілах. Звяртаемся да бацькоў, у нас ёсць Беларускі бацькоўскі камітэт. На жаль, з Магілёва ніхто ў гэты камітэт так і не запісаўся, нягледзячы на тое што там хапае нашых дэмакратаў. Так што тут усё залежыць ад жыхароў слаўнага горада Магілёва, ад мясцовай інтэлігенцыі. З Мінска я ім беларускамоўны клас не адкрыю. Былі б заявы — быў бы і клас. Значыцца, такая ў нас у Магілёве дэмакратычная грамадскасць. У мінулым годзе на Гродзеншчыне ТБМ адкрыла 20 (!) беларускамоўных класаў. У Лідзе ў гэтым годзе запрацавалі два класы і два дзіцячыя садкі. А ў Магілёве і абласная арганізацыя ТБМ не хоча гэтым займацца, і грамадскасць...

**— Абласная арганізацыя ТБМ не хоча займацца праблемай беларускамоўных класаў?!**

— Так, кажуць мне: "Нас больш турыстычныя вандроўкі цікавяць, чым такія класы".

**— Дык гэта ж ваша структура.**

— У нас дэмакратыя — я не магу ім нешта загадаць, яны поўнасцю самастойныя. Дарэчы, магілёўская арганізацыя — адна з лепшых. Яны праводзяць вялікую краязнаўчую работу, работу па ахове помнікаў... А вось беларускамоўнымі класамі займацца не хочуць. Кажуць: "Ніхто ж заявы не хоча пісаць".

**— А з бацькамі працавалі ў гэтым накірунку?**

— Безумоўна, размаўлялі. І, паўтаруся, калі б хаця тыя паўтысячы дэмакратаў, што жывуць у Магілёве, самі аддалі сваіх дзяцей у беларускамоўныя класы, то і праблемы ніякай не было б. Што мы можам зрабіць, калі нават яны накіроўваюць дзяцей у рускамоўныя класы?

**— Самі вы былі ў Магілёве?**

— Сто разоў. Размаўляў з людзьмі, пераконваў. Усе згодны з тым, што беларускамоўныя школы патрэбны, ківаюць галавой, а як іх дзеці ці ўнукі збіраюцца ў школу, робяць, "як усе". Дарэчы, гарадскія ўлады Магілёва спрыяльна ставяцца да беларускамоўных класаў у горадзе. Я і з імі таксама гутарыў. З каго ж нам браць прыклад, калі нават прадстаўнікі апазіцыі аддаюць дзяцей у рускамоўныя класы?

**Ад рэдакцыі:** *Дарэчы, як нам стала вядома, бацька той жа Ялінкі — спадар Салаўёў з'яўляецца кіраўніком абласной арганізацыі Партыі БНФ. Атрымліваецца, аўтарытэт такой асобы ў грамадскім жыцці рэгіёна не выходзіць за межы яго ўласнай сям'і. Няўжо ўся абласная арганізацыя Партыі БНФ не можа паўплываць на выбар бацькоў на карысць беларускамоўнага навучання сваіх дзяцей?*

***Мікалай ЧАРГІНЕЦ,***
*старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі:*

## «Сумна толькі, што яна там адна...»

— Сітуацыю ў Магілёве я ацэньваю станоўча ўжо хаця б таму, што клас, дзе вучыцца ўсяго адна дзяўчынка, не зачыняюць. Гэта добра. А ўвогуле, я заўсёды выступаў і выступаю за тое, каб умацоўваць пазіцыі беларускай мовы ў краіне не палітычным лямантам, як робяць многія, а канкрэтнай работай. Мы, напрыклад, у дзіцячых садках і школах праводзім конкурсы па беларускай мове. Дзеткі рыхтуюцца, бацькі перажываюць. Маленькія ўзнагароды даём — кніжкі. У нас шмат прапаноў па папулярызацыі мовы, але робім гэта спакойна. І, я вам скажу, каб не Уладзімір Някляеў са сваёй палітыкай, у нас ужо даўно была б у Мінску вуліца імя Васіля Быкава. Адным словам, трэба брацца ўсім разам, каб мова падымалася на патрэбную вышыню.

**— Але ж бачыце, на якіх "вышынях" сёння сітуацыя ў Магілёве...**

— Мы ў свой час прапаноўвалі, каб больш увагі надавалася ў гэтым накірунку працы з бацькамі, трэба адкрыць бясплатныя беларускамоўныя курсы ў дамах культуры, вайсковых часцях, працоўных калектывах. Можна, каб навучанне вялі не толькі выкладчыкі, але і сябры нашага саюза. А для таго, каб чалавек мог знайсці час на такія курсы, можна было б адпускаць яго на гадзіну раней з работы. Трэба разумець, што ў адзін момант усе на мове не загавораць. Будзем рэалістамі. А тое, што ў Магілёве дзеля адной дзяўчынкі не зачыняюць беларускамоўны клас, трэба проста яшчэ раз сказаць: "Малайцы!" Сумна толькі, што яна там адна... Зрэшты, я і сам на мове размаўляю з цяжкасцю. Няма практыкі, няма з кім пагутарыць па-беларуску.



# Зварот «Народнай Волі»

Шаноўныя суайчыннікі, беларусы, чытачы "Народнай Волі"!

Толькі што вы пазнаёміліся з жахлівымі, не пабаімся гэтага слова, фактамі і лічбамі аб стане беларускай адукацыі ў школах Магілёва. Ці няпраўда, можна схапіцца за галаву: у абласным цэнтры, даволі буйным, амаль з 400-тысячным насельніцтвам беларускім горадзе — усяго адна-адзіная вучаніца-трэцякласніца ў адным-адзіным беларускамоўным класе! Не ўкладваецца ў галаве, як сталася магчымым тое, што немагчыма больш нідзе, ні ў адной краіне свету.

Канечне ж, у Магілёве, як і ва ўсіх рэгіёнах краіны ад абласнога да раённых цэнтраў, ёсць дзяржаўныя ўпраўленні адукацыі, розныя грамадскія арганізацыі, прызваныя ўсяляк спрыяць выхаванню ў дзятвы, моладзі ды і ўсіх грамадзян цікавасці, любові да роднай мовы, да імкнення свабоднага валодання ёю, карыстання ёю заўсёды і паўсюдна. Тым больш што яна — мова дзяржаўная, без павагі і пашаны да яе ніяк нельга. Яна ж такая багатая, прыгожая, непаўторная — дадзеная нам Богам і пранесеная праз вякі ў сённяшні дзень мудрымі і мужнымі продкамі, якія, не шкадуючы сябе, баранілі любае матчына слова ад згубы. Без роднай мовы, як вядома, чалавек не чалавек, а так — прабачце за рэзкасць — непаразуменне нейкае. І нацыя не нацыя — адна назва, якая непазбежна знікае са знікненнем мовы...

Вы хочаце, каб нас, беларусаў, у хуткім часе зусім не стала? А так, на жаль, будзе, калі мы, бацькі сваіх дзяцей, не ачомаемся, не задумаемся і не адумаемся, не развітаемся са сваёй недаравальнай бяздумнасцю. Вы, канечне, ведаеце, што перапіс насельніцтва 2009 года паказаў: 84 працэнты жыхароў у Беларусі назвалі сябе беларусамі! У сістэме ж адукацыі краіны гэтая ўнушальная лічба адлюстроўваецца пачварным, неверагодным, алагічным чынам. Згодна з афіцыйнымі дадзенымі, у 2010 годзе колькасць навучэнцаў, якія набывалі агульную сярэднюю адукацыю па-беларуску, склала ўсяго 19 працэнтаў. І то пераважна за кошт сельскіх школ, якія, асабліва апошнім часам, імкліва скарачаюцца з-за малакамплектнасці, а іх вучні пераводзяцца ў больш буйныя, ды нярэдка рускамоўныя школы. Так што, выходзіць, ёсць падставы меркаваць: і без таго нярадасная лічба **19** сёння ўжо куды меншая...

Смех скрозь слёзы, абсурд і знявага нацыянальнай годнасці грамадзян Беларусі, пагроза іх агульнай будучыні! Проста-такі трывожныя лічбы, выбраныя рэдакцыяй "Народнай Волі" толькі па Магілёўшчыне, даволі характэрны і для астатніх рэгіёнаў краіны, яе сталіцы.

Чыноўнікі ўсіх рангаў на слушныя папрокі грамадскасці і СМІ наконт таго, што дзяржава не рупіцца аб развіцці беларускамоўнай адукацыі, часцей за ўсё ківаюць на абыякавасць бацькоў, іх нежаданне аддаваць дзяцей у беларускамоўныя класы. **Дарагія бацькі, адкажыце: вы што, і сапраўды хочаце, каб вашы дзеткі, не чуючы і не мовячы слова па-беларуску, выраслі безаблічнымі, нібы, прабачце, шэрыя слупы, якім ужо і не сніцца, што былі яны калісьці жывымі зялёнымі дрэвамі і ганілі лістотай кожнае па-свойму — бяроза, сасна, рабіна, вярба, альха, дуб?** Што не існуюць у прыродзе проста "дрэвы", гэта абавязкова расліны, адрозныя ад іншай разнавіднасці? Таму яны і непараўнальныя, прыгожыя, бо розныя, своеасаблівыя, адметныя ў сваёй красе і непаўторнасці. А чалавек? Хіба не па мове — першай і галоўнай прыкмеце кожнай нацыі — пазнаюць, адкуль ён родам?

Пытанні, пытанні, пытанні... Яны не даюць спакою тым, хто дбае пра будучыню сваіх нашчадкаў, усёй Радзімы. **Называцца беларусам і быць ім — не адно і тое ж. Няўжо мы можам спакойна спаць, калі знікае наш галоўны духоўны скарб — мова? Без яе няма шляху ў годнае, прыгожае заўтра.**

Скажаце: маўляў, а што паробіш, так ужо складваецца — куды пасунуцца дачцэ ці сыну пасля школы з гэтай беларускай мовай? Жыццё паказвае: ды куды заўгодна! Выпускнікі з беларускай мовай навучання, як правіла, выдатна займаюцца і заканчваюць любыя ВНУ, атрымліваюць перспектыўныя спецыяльнасці і паспяхова праяўляюць сябе ў розных сферах жыцця. Родная мова ім не памеха, наадварот — украса і падпітка адоранай асобы, якая міжволі вылучаецца сваёй шматграннасцю, духоўным набыткам сярод агульнай масы.

Бацькі, дапамажыце сваім дзеткам пачаць шлях да крынічнага, чароўнага слова зямлі, на якой жывяце, з саміх сябе! Разам з дачушкай і сынком чытайце цікавыя, змястоўныя, захапляльныя беларускія кнігі — паверце, тут ёсць што пачытаць, чым захапіцца. Вывучайце разам з малымі штодня хаця б па адным, па два, тры і гэтак далей беларускім слоўцы — і хутка заўважыце, як мяняецца ваш духоўны свет, пашырае свае межы, узвышае вас. Адчуеце, як радуе кожны крок, кожны здабытак вашага дзіцяці на гэтым шляху. Смялей прыводзьце сваіх дзетак у беларускамоўныя класы, потым вы будзеце толькі дзякаваць самім сабе, а дзеці — вам і сваім настаўнікам.

Толькі так мы дойдзем да Беларусі, аб якой сёння толькі марым. Добрага вам здароўечка і — у добры час!

**(Працяг тэмы ў наступным нумары.)**

ДЗЯДЫ Ў КУРАПАТАХ

*Сяргей КАВАЛЕНКА:*

# «Завешчаны дзядамі наш святы бел-чырвона-белы сцяг будзе горда лунаць над роднай зямлёй!»

Гэта сказаў чалавек, якому нельга не верыць. Для яго гэта не проста высокія словы. Сваё права на давер і любоў тысяч і тысяч беларусаў, як і гонар ісці на чале ўрачыстага жалобнага шэсця, што рушыла да Курапат на паклон памяці продкаў-пакутнікаў, ён заслужыў з поўным правам. Заслужыў уласнымі пакутамі за свае перакананні, неверагоднай мужнасцю, стойкасцю, нязломнасцю за кратамі вязніц, куды кідаюць лепшых сыноў Бацькаўшчыны — не, не ў далёкім сярэднявеччы, не ў чорныя часы фашысцскай навалы, а сёння, ужо ў XXI стагоддзі. Кажу пра чалавека, які стаўся легендай, героем Беларусі нашых дзён. Ахвярнасцю, вышынёй свайго духу ён ратуе гонар нацыі, усіх нас, якія, на вялікі сорам, дапусцілі нашэсце цемры на абшары Бацькаўшчыны, дапусцілі гвалт над сабой і запаветам продкаў, над будучым дзяцей і ўнукаў.



Імя гэтага героя ведаюць усе: гэта **Сяргей КАВАЛЕНКА** — той самы, які ва ўсіх сэнсах слова узняў над зямлёй спраказветны нацыянальны бел-чырвона-белы — Хрыстовы — сцяг, як віцебскі Мірон нашага часу. Калі, зусім нечакана, Сяргей з’явіўся сярод удзельнікаў шэсця, вакол яго завіхурыла хваля нястрымнай сонечнай радасці, што асвятліла не надта прыветны заснежана-слякотны нядзельны дзень.

Людзі, што душой і сэрцам хварэлі, перажываючы яшчэ не так даўно пакутную турэмную эпапею нескаронага патрыёта, кінуліся яго абдымаць-цалаваць, жанчыны працягвалі кветкі. За ім, з даверам і душэўным уздымам, ішла калона такіх жа годных людзей — сяброў і прыхільнікаў Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ, да якой мае гонар належаць і Сяргей, актывістаў курапацкага руху, звычайных, але неабыякавых грамадзян. Абсалютная бальшыня — моладзь, цудоўныя хлопцы са сцягамі, лозунгамі, крыжамі ў руках і на плячах. Разам з імі — даўно знаёмыя твары шаноўных людзей старэйшага пакалення — дарэчы, яны выпрабаваныя сябры “Народнай Волі”, што забыліся на ўзрост і нямогласць: **Зоя Дзмітрыеўна ІВАНОВА** (яна вырвалася на шэсце з Бараўлянскага шпіталя ветэранаў вайны і працы), заўжды рухавы і ўмешлівы “аксакал” **Павел Васільевіч ІВАНЕНКА** з самаробным плакацікам на грудзях, гадаваная за калючым дротам дачка расстралянага ў Курапатах паэта-лірыка Тодара Кляшторнага **Мая Тодараўна КЛЯШТОРНАЯ,** старшыня ГА “Хрысціянская злучнасць “Курапаты” **Вацлаў Адольфавіч НЯМКОВІЧ,** нястомная руплівіца курапацкіх талок **Ірына Якаўлеўна КАРМАНОЎСКАЯ** і шмат іншых. Шкада, вельмі шкада, што некаторыя вядомыя дзеячы розных апазіцыйных партый, прайшоўшы напачатку ў калоне па праспекце Незалежнасці, сышлі чамусьці з дыстанцыі... Курапаты для іх мала што значаць?

...А вось і зусім новы твар — маладая абаяльная жанчына, кінарэжысёр **Дар’я ВІЁЛІНА** з Масквы. Дачулася пра тое, як шануюць у Беларусі памяць продкаў, нягледзячы на неспрыянне (мякка кажучы) улад, і не змагла не прыехаць сюды, не сабраць багаты матэрыял для будучага фільма. Дарэчы, яна падзялілася свежымі ўражаннямі ад рупнасці і маштабнасці клопату дзяржавы і шырокай грамадскасці па ўвекавечанні памяці пакутнікаў у Казахстане, які ў савецкі час быў ператвораны ледзь не ў суцэльны ГУЛАГ, дзе перажывалі нечалавечыя мукі і гінулі незлічоныя вязні з усіх краёў былога СССР. Годны прыклад даюць беларусам казахскія сябры!

У нас жа ўсё з дакладнасцю да наадварот. Як зазначыў у зачытаным на мітынгу звароце да землякоў першаадкрывальнік Курапат, лідар партыі КХП—БНФ **Зянон ПАЗЬНЯК,** сённяшні рэжым у Беларусі непрыхавана “стараецца знішчыць і абылгаць Курапаты... пракладваць аўтастрады праз магілы, будаваць вакол Курапат бардэлі і рэстараны, рынкі ды казіно, ладзіць забавы і гандаль спіртным”. Хіба не так?

У якіх некалькіх дзясятках метраў ад пагорка “Галгофа”, дзе быў жалобны мітынг, амаль упрытык да святога ўрочышча завяршаецца падобна прыхаванае напачатку пад выглядам гаспадарча-дарожнага аб’екта (аўтазаправачнага комплексу побач з існуючай АЗС) узвядзенне аб’екта зусім іншага прызначэння: рэстаранна-забаўляльнага з асобнымі домікамі для, так бы мовіць, “комплекснага” спецабслугоўвання багатай кліентуры. Між тым месца масавых расстрэлаў мірных грамадзян у часы сталіншчыны, якое афіцыйна занесена ў Рэестр гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь, па сутнасці, ніяк не ахоўваецца. А межы ахоўнай зоны вакол Народнага мемарыяла канчаткова дагэтуль не вызначаны Мінкультам. “Культурныя” танцы на чалавечых касцях — гэта культура, цывілізацыя ў сучаснай Беларусі? Не, дзікунства і кашчуннасць!

Але, дзякуй Богу, не ўсе яшчэ здзічэлі ў краіне ў цэнтры Еўропы. Сведчаннем таму і Дзяды ў Курапатах 28 кастрычніка, на самым пярэдадні 75-й гадавіны трагічнай крывавай нойчы, калі быў расстраляны цвет беларускай нацыі — 100 выдатнейшых творцаў-патрыётаў, навукоўцаў, асветнікаў. Імёны некаторых з іх вышыты чырвонымі ніткамі на белых палотнішчах, прымацаваных да курапацкіх крыжоў.

— Прызнаюся, я першы раз у Курапатах, прыехаў з Віцебска і — сюды, — падзяліўся з “Народнай Воляй” Сяргей Каваленка. — Проста ўражаны ўбачаным. Якія ж тут людзі, якая моладзь! Веру, што яна не збочыць са шляху, данясе нашы бел-чырвона-белыя сцягі да вольнай, сапраўды незалежнай і шчаснай Беларусі. Толькі за яе трэба змагацца, і я не збіраюся сядзець як мыш пад венікам.

Сяргей стаяў пад покрывам самага прыгожага ў свеце сцяга побач са сваёй жоначкай Аленай — надзейным і верным сябрам у самых страшных выпрабаваннях, маці іх дваіх дзетак і проста беспадобнай маладой красуняй. Сапраўды, гледзячы на іх і падобных да іх, нельга не верыць: тая прыгажосць, што ў душы кожнага прыстойнага, адданага Бацькаўшчыне чалавека, пераможа зло і церму. І тады, замест снега, святыя магілы і кожны лапік беларускай зямлі будуць патанаць у кветках народнай любові.

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Як два студэнты апынуліся ў пастарунку...

*Усе СМІ перадалі, што сёлетнія Дзяды абышліся без эксцэсаў і без затрыманняў. Але гэта не так.*

Студэнт першага курса факультэта прыкладной матэматыкі і інфарматыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Уладзіслаў Швед за спробу ўдзельнічаць у шэсці “Дзяды-2012” мусіць наведаць камісію па справах непаўналетніх Фрунзенскага райвыканкама. Сам Уладзь калі вырашыў пайсці на дазволеную ўладамі акцыю, не мог і падумаць, што апынецца ў міліцыі. Тым больш што ў такой акцыі хлопец удзельнічаў другі раз і думаў, што ўжо мае станоўчы досвед.

*— Першы раз я браў удзел у шэсці на Дзяды летась. Пра акцыю даведаўся праз інтэрнэт. Тады ж стаў сябрам “Маладога фронту”: хоць арганізацыя і не зарэгістравана ў Беларусі, але яе каштоўнасці былі для мяне роднымі. Яшчэ раней я самастойна вывучыў беларускую мову. Першы мой удзел у акцыі абышоўся без якіх-небудзь праблем, а вось сёлета мяне затрымалі яшчэ на падыходзе да месца збору і пратрымалі ў міліцыі каля трох гадзін. Адбылося гэта нечакана: літаральна ў метро да мяне падышоў міліцыянер у форме і запытаўся, што гэта ў мяне ў руцэ. Я адказаў, што гэта палка для сцяга. Скажу вам шчыра — гэта быў кавалак мамінай швабры, але на ім добра сцяг трымаецца. Міліцыянер паказаў мне выхад з метро, і я спакойна пакрочыў у бок гадзіннікавага завода, да месца збору ўдзельнікаў акцыі. Ды толькі перад лесвіцай да мяне падышоў нейкі мужчына ў чорным, схапіў за руку і сказаў: “Пойдзем”. Я пачаў вырывацца, але да яго падбег яшчэ адзін (таксама ў чорным), і яны мяне пацягнулі ў свой падземны пастарунак. Там у мяне адабралі і мабільнік, і сцяг. Потым пачалі нешта пісаць, а мне сказалі: “Стой, потым пра ўсё даведаешся”. Пасля таго, як запоўнілі нейкі бланк, мяне закінулі ў аўтобус і адвезлі ў аддзяленне міліцыі метрапалітэна, што на плошчы Незалежнасці. Там я ўбачыў сваю маці. Яна была вельмі ўсхваляваная. Ёй далі падпісаць пратакол, з якога вынікала, што я “***громко кричал, выражался грубой нецензурной бранью, размахивал руками, на замечания прохожих не реагировал, чем умышленно нарушил общественный порядок и спокойствие граждан, выражающемся в явном неуважении к обществу”*** *(стыль захваны.* ***— Аўт.).***

*У пратаколе было напісана і прозвішча сведкі, якога я, натуральна, не бачыў. Гэта нехта Бужан Генадзь Уладзіміравіч, які, як сведчыць дакумент, пражывае там, дзе месціцца міліцыя, — у доме №6 на праспекце Незалежнасці. Ніколі не думаў, што там ёсць прыватныя кватэры. Але гэта не засмуціла старшага інспектара Сяргея Есмантовіча, які складаў пратакол. У міліцыі мне ўвесь час пагражалі арыштам, нягледзячы на тое што я непаўналетні. Але потым аддалі маці копію пратакола і сказалі, што справу накіруюць у камісію па справах непаўналетніх па месцы жыхарства.*

*Я ўпершыню сутыкнуўся с праваахоўнымі органамі, і, скажу шчыра, мяне вельмі ўразіла гэтае знаёмства. Я і не думаў, што дарослыя людзі ў форме могуць так цынічна сябе паводзіць. Калі б мне нехта расказаў пра такое, то, можа, да канца б і не паверыў. Маё выхаванне папросту не дазваляе пераказаць тыя выразы, якія яны ўжывалі. Прычым, як я разумею, гэта была іх звычайная мова.*

*Дарэчы, у пастарунку быў яшчэ адзін непаўналетні — студэнт Ілля Хромаў. У яго былі драўляная палка, два сцягі, а на заплечніку — бел-чырвона-белая стужка. Але ён, як і я, ведаў, што шэсце дазволена. І сцягі былі дазволеныя. За што тады нас затрымалі? Можа, таму і абвінавацілі ў дробным хуліганстве, бо няма такога артыкула, каб за стужку ці за сцяг у заплечніку можна было караць?*

Адзін з арганізатараў шэсця “Дзяды-2012” Алесь Чахольскі разам з іншымі ўдельнікамі акцыі быў упэўнены, што гэтым разам абышлося без затрыманняў. У панядзелак ён сустрэўся з Уладзіславам.

*“Тыя людзі, якія затрымалі непаўналетніх хлопцаў, паводзілі сябе як сапраўдныя бандыты — не прадставіліся, не прад’явілі пасведчанняў ды яшчэ і сфабрыкавалі адміністрацыйную справу. Хочацца, каб пытанне, калі ж іх саміх прыцягнуць да адказнасці, перайшло з разраду рытарычных у разрад канкрэтных”,* — абураны Алесь Чахольскі.

Пакуль жа студэнт Уладзіслаў Швед пасняхова вучыцца на бюджэтнай аснове ў БДУ і гатовіцца здаваць сесію. Але калі гэтая справа будзе мець звычайны працяг, то наша краіна можа пазбавіцца яшчэ аднаго разумнага студэнта, якім будзе ганарыцца які-небудзь еўрапейскі ўніверсітэт.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПАЛІТВЯЗНІ

## *Трымайся, Дзіма!*

На 30 кастрычніка прызначана выязное судовае пасяджэнне ў Мазырскай калоніі, на якім можа быць прынята рашэнне аб змяненні меры ўтрымання палітвязню Дзмітрыю Дашкевічу.

Яго як парушальніка рэжыму хочуць перавесці ў турму, зрабіўшы ўмовы ўтрымання больш жорсткімі.

Праўда, ці адбудзецца запланаваны суд, у панядзелак было невядома. У калоніі спасылаліся на тое, што суддзя напярэдадні захварэў.

ДИПКУРЬЕР

## *Новым главой МИД Литвы может стать посол в Беларуси*

*В понедельник в Литве начались консультации по поводу нового Кабинета министров.*

Многое станет ясно после встречи президента страны Дали Грибаускайте и лидера победившей на парламентских выборах Литовской социал-демократической партии (ЛСДП) **Альгирдаса Буткявичюса.** Лидеры образовавшейся после первого тура коалиции (ЛСДП, Партия труда и “Порядок и справедливость”) уже провели предварительные переговоры, в ходе которых было принято решение, что новое правительство возглавит представитель ЛСДП. По поводу кандидатур других министров пока сохраняется неясность.

Однако, как стало сегодня известно, Альгирдас Буткявичюс обмолвился, что новым министром иностранных дел может стать... нынешний посол Литвы в Беларуси Линас Линкявичюс. О такой возможности нового назначения Линкявичюса говорилось в литовских СМИ.

## *Не да тых звяртаемся*

*Беларусь рызыкуе стаць безнадзейным аўтсайдарам сярод постсавецкіх краін у сферы візавых адносін з Еўрапейскім Саюзам.*

Такія краіны, як Грузія, Малдова і Украіна, вядуць дыялог па ўвядзенні бязвізавага рэжыму з ЕС, а Азербайджан і Арменія ўжо пачалі перамовы па заключэнні пагадненняў аб спрашчэнні візавага рэжыму. У выпадку прамаруджвання дзейнасці ў гэтым напрамку Беларусь рызыкуе стаць безнадзейным аўтсайдарам у сферы візавых адносін з Еўрапейскім Саюзам.

Грамадзяне даўно чакаюць свабоднага перамяшчэння ў еўрапейскія краіны, але аналітыкі Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў, што працуе ў Літве, прыйшлі да несуцяшальных высноў, бо спрашчэнне візавага рэжыму з Рэспублікай Беларусь, у тым ліку ў плане скарачэння альбо адмены візавых збораў, у аднабаковым парадку з боку ЕС нерэалістычнае па шэрагу прававых і палітычных прычын. У сувязі з гэтым лабісцкія намаганні беларускіх НДА, якія праводзяць розныя акцыі за адмену віз, павінны быць пераарыентаваны на працу з беларускімі ўладамі, ад палітычнай волі якіх залежыць актывізацыя работы па спрашчэнні візавага рэжыму з ЕС.

Спрашчэнні ў выглядзе выключэнняў з палажэнняў Візавага кодэкса ЕС для шырокай катэгорыі грамадзян магчымы толькі ў выпадку заключэння Пагаднення аб спрошчаным візавым рэжыме з ЕС і пагадненняў аб малым памежным руху з суседнімі краінамі ЕС (толькі для жыхароў памежжа). Тым часам Беларусь зацягвае нават пачатак перамоў па гэтым пытанні. Больш за тое, не працуюць нават ужо заключаныя пагадненні з Польшчай і Літвой па малым памежным руху. Прычым не працуюць па віне беларускага боку.

СТАЛІЦА

## *Закрыўся апошні пасажырскі рэйс з аэрапорта «Мінск-1»*

Авіякампанія “Ютэйр” з 29 кастрычніка пачынае выконваць рэйсы Масква—Мінск—Масква ў Нацыянальны аэрапорт “Мінск”, паведамілі ў прэс-службе авіякампаніі.

Такім чынам, са сталічнага аэрапорта “Мінск-1” больш не будуць ажыццяўляцца пасажырскія авіяперавозкі.

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

# Именем короля

Если бы вдруг выяснилось, что существует закон, запрещающий пешеходам открывать зонты, мы бы наверняка покрутили пальцем у виска: бред какой-то!

Между тем такие законы были, а в некоторых штатах США формально не отменены до сих пор. Оказывается, зонтом можно было напугать лошадь и спровоцировать, скажем так, ДТП с тяжкими последствиями. Законодатели беспокоились.

Были времена, когда только инженеры-электрики с лицензией могли вкручивать новые электролампочки.

Законодательство многих стран определяло, что грешно и преступно, облегчаясь в туалете в воскресенье, смотреть вверх (то есть возводить глаза к небесам).

Во Франции в свое время придумали закон, согласно которому ни один владелец не мог назвать свою свинью Наполеоном...

Все это было. Все это когда-то воспринималась серьезно. Но сегодня подобные забавные несуразицы только добавляют ярких красок сухой науке юриспруденции. Не более.

Точно таким же атавизмом в законодательстве является постулат об особом наказании за клевету и оскорбление высших государственных особ. Потому что давно уже никто не считает первых лиц даром богов, наместниками Всевышнего на земле, богопомазанниками, особами священными, неприкосновенными и т.д. и т.п. Хотя именно тем, что, покушаясь на авторитет первого лица, ты покушаешься на авторитет Бога, раньше объясняли особо строгие меры защиты этой категории “пострадавших” от людских языков.

Но время идет. Люди узнали, что Земля круглая, что она не покоится на трех китах, что прав был гонимый Галилей, когда утверждал: “И все-таки она вертится!”

Точно так же постепенно пришли к пониманию, что правители — это никакие не дары небес, а часто даже совсем наоборот — наказание. Что среди них бывают и самозванцы, и дураки. А вместе с этим пониманием стали исчезать и соответствующие законы, предписывающие как-то особенно защищать авторитет первых лиц как особенных персон.

Кто сегодня для американцев президент США? Обычный человек, высокого уровня менеджер, умный или не очень, но добровольно согласившийся на публичность. Кто боится высоты, не должен идти в летчики, кто не любит воды — в водолазы, кто слишком обидчив и болезненно воспринимает критику — волен сидеть дома и вышивать крестиком. Но если стал политиком — не обижайся. И, конечно, давно нет в цивилизованных странах какого-то специального наказания за покушение на авторитет публичных особ. Это даже воспринимается дико.

Впрочем, кто-то может вспомнить, что, например, в Англии до сих пор не отменен закон, предусматривающий смертную казнь за наклеенную вверх ногами почтовую марку с изображением короля или королевы. Это так. Только одновременно там и смертная казнь запрещена. И отменять законы не в английской традиции. Поэтому формально до сих пор в городе Честер после полуночи разрешено стрелять из лука по валлийцам. В Лондоне можно избивать жен только до девяти часов вечера, чтобы не мешать криками соседям. И никто не отменил закон от 1644 года, запрещающий есть на Рождество сладкие пирожки: их по традиции выпекают как раз в период рождественско-новогодних праздников, и в свое время Оливер Кромвель решил, что надо законодательно бороться с грехом чревоугодия.

Неужели кто-то полагает, будто в Англии на Рождество до сих пор не едят сладкие пирожки? Да никому просто не приходит в голову эти законы применять.

Подобные законодательные казусы в мире собирают, будто анекдоты. Им такие атавизмы смешны, потому что никто не стремится анекдоты сделать былью. А вот нам совсем не смешно, у нас подобные дикости работают.

Анджею Почобуту из Гродно угрожает до пяти лет лишения свободы за клевету на президента, совершенную повторно. То есть королей давно нет, а особо строгое наказание за покушение на авторитет короля в нашей стране осталось. Название статей УК осовременили, но суть не изменилась.

В первый раз Анджея осудили за то, что в своих публикациях он называл Лукашенко “диктатором”. Правда, так и осталось невыясненным, обиделся ли сам Лукашенко на характеристику “диктатор”. По крайней мере, придя на избирательный участок на парламентских выборах 2008 года, он говорил журналистам: *“Диктатор — так диктатор. В этом есть тоже определенная выгода. Вы же представьте себе, что я последний диктатор. Последний! А где бы вы еще в своей жизни встретили и поговорили с диктатором, если бы не приехали сюда в Беларусь?”*

Зато обиделись начальники КГБ и прокуроры, которые почему-то считают, что и в XXI веке можно действовать “именем короля”.

Анджея признали виновным и приговорили к трем годам лишения свободы с отсрочкой исполнения приговора на два года. Теперь завели новое дело. Никто не знает, к каким словам прицепились на этот раз. Но мы тут всем журналистским сообществом “инкриминируемые” ему публикации изучали и абсолютно никакой крамолы (даже с большой натяжкой) не нашли. Однако обвинение Почобуту предъявлено. По той же “королевской” статье — 367-й, части 2-я: клевета в отношении президента Республики Беларусь, совершенная повторно. Возможное наказание — до пяти лет.

Вот если бы Анджей принуждал кого-то к занятию проституцией, ему бы грозило всего до трех лет (статья 171-1, часть 1-я). Если бы он был педофилом и совращал малолетних — до четырех лет (статья 168). А он, вражина, критические статьи про президента и белорусскую действительность писал. С точки зрения белорусского закона, это “преступление” опаснее.

Кто пролоббировал такие символические наказания для любителей сексуальных забав с детьми при принятии Уголовного кодекса, не знаю. Но одновременно эти люди защитили себя тем, что выслужились перед президентом. Потому что даже Госдума России, пойдя по пути ужесточения законодательства и вернув в Уголовный кодекс статью о клевете, не додумалась выделять главу государства в некую неприкосновенную цацу, за неправильные сведения о которой предусмотрена особо суровая кара.

Даже Казахстан демонстрирует более-менее цивилизованные подходы к пониманию соразмерности тяжести преступления и наказания за него. УК этой страны, как и наше, содержит особую “президентскую статью”, но она даже по-другому называется — “Посягательство на честь и достоинство Президента Республики Казахстан и воспрепятствование его деятельности”. И больше трех лет за такое преступление при самых-самых отягчающих обстоятельствах не дадут. Более того, соответствующая статья УК Казахстана имеет примечание: “Публичные выступления, содержащие критические высказывания о проводимой Президентом Республики Казахстан политике, не влекут уголовной ответственности по настоящей статье”.

А вот за педофилию там серьезно накажут — аж до 20 лет можно получить.

То есть каким бы азиатским ханом ни называли Нурсултана Назарбаева, но покушение на свои честь и достоинство он все-таки оценивает куда скромнее, чем судьбы детей, психически покалеченных разными извращенцами. Зато Александр Лукашенко, называющий справедливость главным принципом своей политики, собственную персону оценил выше. Такое у нас понимание европейскости, цивилизованности, справедливости.

Конечно, то, что происходит с журналистом Анджеем Почобутом, чья профессиональная деятельность носит публичный характер, это беспредел. Это травля, оформленная в протоколы-экспертизы-папочки с использованием закона, уместного разве что в XIX веке. Это просто откровенная охота на журналиста, объявленная именем короля.

Видеть в статьях Анджея серьезное преступление и доказывать, что Почобут преступник, — это то же самое, что пытаться убедить мир, будто большую угрозу общественному порядку до сих пор несет открытый пешеходом зонтик.

По сути — то же самое. Только это не анекдот и не шутка. Это происходит на наших глазах. И это не смешно.

СКАНДАЛ

# «Усіх пасадзіць!» Пасадзяць?

Падчас нарады, прысвечанай развіццю сучаснага беларускага спорту, Аляксандр Лукашэнка рэзка выказаўся ў бок кіраўніцтва сталічнага стадыёна “Дынама”. Больш за тое, даручыў старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Аляксандру Якабсону “не цырымоніцца з жулікамі”. Прагучала нават жорсткая каманда: “Усіх пасадзіць!”

Калі даслоўна, гучала гэта так: “*Возмутительная ситуация сложилась на сегодняшний день вокруг минского стадиона “Динамо”. Несмотря на то, что решение о его реконструкции давно принято, практически ничего не делается. Инвестора нет, ни нормального архитектурного решения. Ну ладно, время надо. Начали вдруг заниматься, узнали, что в графике президента через неделю будет мероприятие, докладывать надо. Посылаю Якобсона. Говорю: Александр Серафимович, сходи, посмотри, что там творится. Он мне как передал фотографии, знаете, мне плохо стало. Их, Александр Серафимович, надо всех посадить! Всех негодяев! Потому что это первый объект, который я ходил с солдатами и приводил в порядок. Оставили у себя этот рынок. Куда деньги дели от этого рынка? Займитесь принципиальнейшим образом, доведите это дело до конца! Никого не щадите! Жулье!”*

У панядзелак, праз пару дзён пасля нарады, “Народная Воля” вырашыла высветліць, ці працуе стадыён? А можа, усе ўжо сядзяць? І сённяшнія, і былыя кіраўнікі?

Ніякіх прыкметператрусаў з выняццем дакументацыі заўважана не было. Пытаюся ў цяперашняга дырэктара стадыёна Юрыя Крывадубскага, у чым прычына такой жорсткай крытыкі адміністрацыі стадыёна з боку кіраўніка краіны.

*— Насамрэч глабальная рэканструкцыя стадыёна была напярэдадні Алімпіяды-80. Стадыён быў пабудаваны ў 1954 годзе і з’яўляецца помнікам архітэктуры. Час ад часу робіцца касметычны рамонт, напрыклад, малярныя работы ці тынкоўка аднаўляецца. А на такую рэканструкцыю, каб стадыён адпавядаў стандартам УЕФА, патрэбны вялікія фінансавыя ўкладанні.*

***— З прамовы вынікала, што на стадыёне бярозкі растуць там, дзе людзі мусяць сядзець.***

*— На брылі, які не эксплуатуецца 10 гадоў, час ад часу расце пустазелле. Гэта натуральны працэс, і з гэтым мы змагаемся. Ніякіх бярозак на сядзеннях няма. Увогуле, стадыён перажывае цяпер не лепшыя часы. Мода ладзіць канцэрты на стадыёнах скончылася яшчэ ў 1990-я. Апошнія аншлагавыя канцэрты з удзелам Алы Пугачовай адбыліся тут у 1989-м. Да нас у Мінск не так часта прыязджаюць сусветныя зоркі, ды і для гэтага ёсць “Мінск-Арэна” і Палац спорту.*

***— А што наконт рынку? Прагучала ж даручэнне высветліць, куды падзявалі грошы ад яго?***

*— Усё адбываецца ў рамках заканадаўства. Ніякіх фінансавых парушэнняў з нашага боку тут няма. Дый рынак ужо не тых маштабаў, што быў некалі...*

Дарэчы, Юрый Крывадубскі толькі-толькі стаў дырэктарам стадыёна. Сёлета ў жніўні. Пасля таго, як яго папярэднік сышоў на пенсію.

Дык ці будуць мець наступствы для адміністрацыі стадыёна (былой і сённяшняй) выказванні кіраўніка краіны? Гэта стане вядома бліжэйшым часам.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ДАСЛОЎНА



## Саннікаў папрасіў палітычнага прытулку ў Вялікабрытаніі

*Напрыканцы мінулага тыдня стала вядома, што былы палітвязень, экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі **Андрэй Саннікаў** папрасіў палітычнага прытулку ў Вялікабрытаніі.*

*“Для мяне гэта было нялёгкае рашэнне. Але, паверце, іншага выйсця не было. Ці зноў падвяргацца катаванням і здзекам у турме, ці сядзець цішэй вады, ніжэй травы. Я быў і застаюся беларускім палітыкам. Буду працягваць даносіць праўду пра маю краіну і дамагацца таго, каб былі прыняты канкрэтныя меры дапамогі дэмакратычнай Беларусі. Лічу, што маё рашэнне дапаможа рэальнаму вызваленню маёй жонкі і сына, якія знаходзяцца ў закладніках рэжыму Лукашэнкі”,* — заявіў Андрэй Саннікаў.

БЕЛАРУСЬ—РАСІЯ

## Масква прапануе Беларусі вярнуць у расійскі бюджэт паўтара мільярда доладаў

У ходзе перамоў наконт умоў пастаўкі нафты ў Беларусь у чацвёртым квартале 2012-га і ў 2013 годзе Масква прапанавала Мінску кампенсаваць расійскаму бюджэту страты ад так званага “растваральнага” бізнесу, якія ацэньвае прыкладна ў 1,5 мільярда долараў.

Як паведамляюць расійскія СМІ, беларускаму боку прапанавана гэтыя грошы вярнуць.

У канцы мінулага тыдня ў Маскве прайшлі перамовы з удзелам першага віцэ-прэм’ера беларускага ўрада Уладзіміра Сямашкі і намесніка міністра эканомікі Анатоля Філонава. На іх расійскі віцэ-прэм’ер Аркадзь Дварковіч прызнаў: “Прадмет перамоў — аб’ёмы паставак нафты ў гэтым і наступным гадах, якія ўмовы для гэтага павінны быць выкананы, перш за ўсё якім чынам неабходна памяняць нарматыўную базу, каб не паўтараліся тыя праблемы, якія былі сёлета па пастаўках так званых растваральнікаў”.

САЛІДАРНАСЦЬ

## Марэк Мігальскі бярэ шэфства над Статкевічам і Дашкевічам

*Нагадаем, што дэпутат Еўрапейскага парламента няспынна праводзіць акцыі салідарнасці з беларускімі палітвязнямі.*

*“Найважнейшымі праектамі майго Офіса былі акцыі салідарнасці з двума беларускімі палітвязнямі: спачатку са Зміцерам Бандарэнкам, а пасля — з Сяргеем Каваленкам. Цяпер гэтыя людзі на волі. Я не ведаю, як на гэта паўплывала мая дзейнасць. Можа, ніяк, а можа, наадварот, адцягнула іх вызваленне. Але я ўсё ж лічу, што нейкі плён мае акцыі прынеслі, і цяпер я вырашыў паспрыяць вызваленню адразу двух палітвязняў. Такім чынам, ад сёння распачынаецца акцыя салідарнасці з палітвязнямі Мікалаем Статкевічам і Зміцерам Дашкевічам. Спадзяюся, што гэта прынясе не меншы эфект, чым у справе Бандарэнкі і Каваленкі”,* — заявіў Марэк Мігальскі.

ЧУЛІ?

## Беларускі Нацбанк апынуўся сярод сусветных лідараў па продажы золата

*Па дадзеных Міжнароднага валютнага фонду, у верасні ўпершыню за год былі зафіксаваны чыстыя продажы золата сусветнымі цэнтрабанкамі.*

Лідарамі сталі цэнтральныя банкі Расіі, Беларусі і Казахстана, якія скарацілі за месяц золатавалютныя рэзервы на 129 тысяч тройскіх унцый.

У меншых аб’ёмах прадавалі золата Чэхія і Мексіка. А вось сур’ёзнымі пакупнікамі золата сталі Бразілія і Украіна.

Чаму наш Нацыянальны банк прадаваў золата, зразумела: грошы патрэбны.

## Маёмасць некалі вядомага прадпрыемства выстаўлена на аўкцыён

*У Магілёўскай вобласці маёмасць ТАА “Вейнянский родник” па вытворчасці безалкагольных напояў выстаўлена на продаж па пачатковай цане 28,5 мільярда рублёў. Аўкцыён прызначаны на 23 лістапада.*

Як паведамілі БелаПАН на прадпрыемстве, заяўлены кошт “занадта добры” з улікам зношанасці абсталявання і не вельмі вялікіх вытворчых плошчаў.

На заводзе чакаюць пакупнікоў, якія маюць досвед працы ў сферы вытворчасці напояў, пітных або мінеральных вод і гатовы ўкласці грошы ў мадэрнізацыю завода. Пры гэтым наўрад ці пасля змены ўласніка прадпрыемства зноў будзе выпускаць фарбаваныя напоі, якія, па словах прадстаўніка завода, сталі “ўчарашнім днём”.

Раней заснавальнікі “Вейнянского родника” — ААТ “Магілёўхімвалакно” і ААТ “Фірма “Вейна “— шукалі інвестараў, паколькі ўжо шмат гадоў завод адчуваў сур’ёзныя вытворчыя праблемы. Аднак ніводны кантракт так і не быў заключаны. Віной усяму, як лічаць на прадпрыемстве, было нежаданне ўладальнікаў прадаваць інвестару маёмасць.

Нагадаем, што менавіта гэтае прадпрыемства стала першым у Беларусі, якое пасля традыцыйных ліманадаў савецкага часу выпусціла на наш рынак напоі зусім новых смакаў.

ІНЦЫДЭНТ

## Душаць у чатыры рукі

*Беларускі КДБ затрымаў у Мінску адваката па справе расійскіх пратэстаў на Балотнай плошчы.*

Пра гэта адвакат паведаміў сваім калегам па тэлефоне.

Калегі Максіма Караткова-Гуляева, адваката аднаго з фігурантаў “балотнай справы”, у якога ў кватэры нядаўна прайшоўператрус, заяўляюць, што ён быў затрыманы ў Мінску беларускімі спецслужбамі.

Па словах адваката Аляксандра Васільева, калегі Караткова-Гуляева, той паведаміў яму пра сваё затрыманне ў тэлефоннай размове.

“Ён сказаў мне наступнае: што ён знаходзіцца ў Мінску і што яго затрымліваюць службы бяспекі Беларусі. Усё, на гэтым сувязь перарвалася”, — распавёў Васільеў.

Максім Караткоў-Гуляеў прадстаўляе інтарэсы Рыхарда Собалева, аднаго з фігурантаў справы аб беспарадках на Балотнай плошчы. Ні ў панядзелак, ні ў аўторак ніякай яснасці з тым, за што і кім ён быў затрыманы ў Мінску, не было.

Але па некаторай інфармацыі адвакат меў з сабой буйную суму грошай. Беларускі КДБ заявіў, што не мае дачынення да гэтага арышту.

ПРОИСШЕСТВИЯ

## Неучебная тревога

*Следователи проводят проверку по факту травмирования двух офицеров во время тактических учений в Витебской области.*

Инцидент со взрывом, во время которого пострадали два офицера 103-й отдельной гвардейской мобильной бригады, произошел во время тактических учений на полигоне “Лосвида”.

Как сообщили в Минобороны, “всего в учениях принимали участие около 500 военнослужащих, 10 единиц бронетанковой и около 65 единиц автомобильной техники”.

В ходе учений отрабатывались вопросы применения аэромобильного подразделения в качестве тактического воздушного десанта, переброски и высадки его посадочным способом и так далее.

БЕЛАРУСЬ: МОДЕРНИЗАЦИЯ, ВЗГЛЯД В ЗАВТРА

*Леонид ЗАИКО, экономист, профессор:*

# «Беларуси нужна стратегия, которая называется «пни его под зад»

*Евросоюз предложил Беларуси диалог о модернизации. Но официальный Минск пока воздерживается от сотрудничества. У Беларуси другие приоритеты во внешней политике — Россия и Китай, которые, по определению первых лиц государства, наши главные стратегические партнеры. Китайцы уже осуществили на территории нашей страны ряд крупных проектов. Может, и вправду обойдемся без Европы? Москва и Пекин выручат?*

— Выручить Беларусь могут только белорусы, — убежден известный экономист, директор аналитического центра “Стратегия” Леонид Заико. — Но если говорить о стратегических партнерах, то номер один в этом списке, конечно же, Россия. Номер два — Германия. Для нас Германия один из самых важных партнеров, потому что мы покупаем у немцев машины, оборудование. Ну а если посмотреть на рынки потребительских товаров, то тут полное господство Китая — везем оттуда все, от метлы до компьютеров. Если же смотреть на ситуацию реально, то Европа покупает у нас только нефтепродукты, которые мы производим из российской нефти. Не будет нефти — не будет нефтепродуктов. Европа в большей степени — это цивилизационный партнер. Сферы наших контактов, на мой взгляд, — наука, искусство, человеческие контакты. Европа является местом возможной миграции нашей рабочей силы. В остальном нет особого смысла что-то придумывать.

**— То есть вы считаете, что сотрудничать с Китаем, рассчитывать на их помощь, на их участие в модернизации белорусской экономики смысл есть, а с Европой — нет?**

— Я о помощи в данном контексте вообще не говорил бы. Лично мне не нужна помощь ни русских, ни китайцев, ни немцев. Я справляюсь сам. Так же и наша экономика должна сама получить импульс нового институционального развития.

Что касается модернизации, то это китайская идея 1970-х годов. Ничего нового европейцы тут не придумали. Кроме того, европейцы в темпах развития промышленного производства, коммуникаций выглядят хуже, чем Япония, Китай, Гонконг. Китай, конечно, нельзя назвать сверхпередовой державой, он все еще находится на низком уровне развития, но по драйву, стремлению идти вперед гораздо выше Европы. Европейцы ленивы, любят пить пиво и смотреть футбол.

**— Но оздоровит ли белорусскую экономику сотрудничество с Китаем? Китайцы, вкладывая деньги, выставляют ряд условий: закупайте у нас оборудование, материалы, привлекайте наших специалистов… Выходит, вложенные китайцами в Беларусь деньги будут работать на них самих?**

— А как иначе? Когда у вас будут первые 10 миллионов долларов, вы будете думать о том, как их инвестировать так, чтобы получать доходы, а не заниматься модернизацией чьей-то экономики. Точно так же ведут себя и европейцы. Когда мы берем кредит, например, в Европейском банке или МВФ — это не помощь. Это бизнес. МВФ берет деньги у шведов под 1 процент, а нам дает кредит под 4 процента. У нас, к сожалению, слишком много иллюзий, что Европа нам будет помогать. Европа будет делать только то, что ей выгодно. Сейчас выгодно покупать недорогие белорусские нефтепродукты. На мой взгляд, модернизацию, сотрудничество придумали плохие политики в Брюсселе, которые решили, что так можно оттянуть Беларусь от России, от ее нефтяных полей, от газовых скважин и прочего. Белорусская номенклатура на эту инициативу смотрит сквозь пальцы, как на причуды европейцев. В “Красном доме” понимают, что Беларусь для России — единственный друг. А за дружбу надо платить, вот россияне и платят.

**— А нам хорошо иметь такого друга? Может, наоборот, диалог с Европой стал бы спасительным рецептом для лечения экономики? А так привыкли сидеть на российской нефтяной игле и ничего не делать. Отчасти поэтому, наверное, и появляются невымышленные истории типа той, которую летом этого года рассказал вице-премьер Семашко: *“Года два назад привезли китайцев на льнокомбинат, они зашли в ткацкий цех и сначала удивились. Они думали, что попали в музей. Потом заулыбались: “Вы на этом работаете?..”***

— Да, проблема есть. Если бы не дешевые российские газ и нефть, средняя зарплата в Беларуси была бы долларов 320.

Лукашенко, ссылаясь на социологические исследования, заявил на пресс-конференции для российских журналистов, что 60 процентов белорусов надеются на государство. Условно говоря, надеются на то, что Лукашенко что-то возьмет у русских, что-то у китайцев, какие-то деньги мы слямзим — и выдадим в качестве зарплаты. В итоге получилось, что сегодня на каждом белорусе 3200 долларов внешнего долга! Семья из 4 человек должна 12 тысяч 800 долларов. Когда я это говорю белорусам, они не верят.

Белорусы привыкли к тому, что им кто-то будет помогать.

**— Привыкли или их к этому приучили?**

— Мой коллега из России говорит так: “Я понял, кто такие белорусы. Национальная идея белорусов — это халява”. Население так себя выставило в последнее время, а власть для того и заключила Таможенный союз, чтобы подпитывать этот халявный вид жизни.

Сама система белорусской власти зиждется на безынициативных людях, тех, кто не хочет зарабатывать и делать все своими руками. Почему у нас 48 процентов всего экспорта — это нефтепродукты? Почему два завода дают половину экспорта всей страны?!.

Беларуси нужна стратегия, которая называется “пни его под зад”. Это не шутка. Эта стратегия описана в западных учебниках по управлению.

Это странно, когда 60 процентов населения полагаются на государство. Это безвольные, безынициативные люди. Любая страна выигрывает как раз тогда, когда есть элита, которая рвется вперед, заинтересована в экономическом развитии государства. И такая элита есть в Китае...

На мой взгляд, все эти разговоры о модернизации, о диалоге бессмысленны. Белорусы должны сами модернизировать свою экономику. Главный капитал Беларуси — это человеческий капитал. И пора его вывести на передовую. А это означает, что не какие-то там телеведущие, певцы, модели и другие сомнительно образованные особы должны быть героями страны. В стране должны быть приоритетами умные, молодые и талантливые люди — математики, физики и инженеры. Они — будущее страны.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

СИТУАЦИЯ

*Андрей ЕГОРОВ:*

# «Диалог о модернизации» — это работа про запас

*Уже более полугода действует инициатива Евросоюза “Европейский диалог о модернизации с Беларусью”. Политолог Андрей Егоров, директор Центра европейской трансформации (Минск), является координатором одной из рабочих групп экспертов в рамках модернизационного диалога. Как продвигается работа экспертов, возможно ли сотрудничество с властями и кого еще необходимо привлечь к диалогу?*

**— Чем сегодня могут похвастаться группы, какие есть наработки?**

— Наверное, сначала стоит коротко рассказать о структуре “Европейского диалога о модернизации”. Эта инициатива подразумевает участие нескольких сторон.

Европа представлена Еврокомиссией и Европейской службой внешних действий, а также представительством Еврокомиссии в Минске. Плюс страны Евросоюза, в которых проводятся какие-то тематические семинары по вопросам модернизации. С белорусской стороны в модернизационном диалоге участвуют представители гражданского общества, политической оппозиции.

Потенциально в этой структуре могут быть и белорусские власти. Им неоднократно поступали предложения присоединиться к диалогу хотя бы на экспертном уровне, но пока государство воздерживается.

Сейчас в структуре диалога внутри Беларуси работают три экспертные группы — по вопросам политической модернизации, по вопросам реформ юридической системы и по вопросам социально-экономических реформ.

Пока эти группы пытались определить приоритетные сферы реформирования и выделили ряд критериев, по которым можно подходить к определению этих ключевых для Беларуси реформ. Критерии, на которые прежде всего обращали внимание эксперты, — это важность и критическая необходимость для страны, заинтересованность белорусских властей в реформировании определенных сфер.

Без поддержки государства невозможно реализовывать ряд реформ. Важно это осознавать. Кроме того, поскольку мы не хотим быть исключительно сервисными структурами при государстве, то, решая вопросы, которые сейчас для него актуальны, мы ищем способы для диалога и те сферы, где сегодня есть возможность такого диалога либо влияния на принятие государством решения. Потому что необходимо реализовывать те реформы, которые в интересах страны в целом, а не только нынешней власти.

Еще один важный критерий — это наличие субъектов со своими интересами в реформах. Речь идет об общественно-политических субъектах, ведь понятно, что не только государство реализует какие-то реформы, они реализуются и структурами гражданского общества с обязательным участием политических сил.

На реализацию реформ также влияют установки населения, которое приемлет либо нет те или иные реформы. Поэтому наличие выраженной воли этих общественно-политических субъектов очень важно для того, чтобы определять приоритетность изменений.

**— Эти группы между собой как-то контактируют, обмениваются информацией и идеями или каждая работает отдельно?**

— Группы работают по своим тематическим блокам, но между ними существует пересечение. Например, невозможно обсуждать вопросы юридической реформы, не затрагивая при этом реформирование в политической сфере, связанное с проблемами конституционного устройства Беларуси. Тут еще важно понимать, что есть реформы, которые можно провести сейчас, а есть те, которые разрабатываются на перспективу.

Например, реформу высшего образования вполне можно провести и сейчас. Есть желание Беларуси присоединиться к Болонскому процессу, и есть возможность гражданского общества влиять на реформирование высшего образования.

А есть перспективные вопросы, четкое понимание которых будет необходимо к началу реальных демократических реформ, если начнется некая либерализация, будет “круглый стол” между гражданским обществом и властями.

Для этого будущего, например, надо ответить на вопрос: на какой конституционной основе будут строиться эти преобразования? Следует ли нам пересматривать Конституцию 1996 года, следует ли нам возвращаться к Конституции 1994 года или нужно искать некие формы иного конституционного устройства?

Эти вопросы надо решать уже сейчас, ибо каждый из вариантов имеет свои плюсы и минусы. Нужно определить, как это будет строиться, потому что, когда ситуация наступит, к ней нужно быть готовыми. Эта готовность должна быть обеспечена в результате работы модернизационного диалога в том числе.

**— Но пока, получается, эксперты работают, по сути, в стол. Нет ли опасений, что, когда наступит эта самая подходящая ситуация, все разработанные идеи и предложения уже устареют?**

— Надо признать, что действительно сейчас работа экспертов — это в основном работа в стол, про запас. В диалоге проваливается политическая часть. То есть в “Европейском диалоге о модернизации” плохо представлены общественно-политические субъекты, которые брали бы на себя ответственность за реализацию реформ.

Эти общественно-политические субъекты представляют собой не только и не столько государство, но и в том числе демократическое политическое поле. То есть это общественно-политические движения, партии, консолидированные организации гражданского общества, например Национальная платформа Форума гражданского общества, какие-то крупные ассоциации — наниматели, профсоюзы и так далее. Это все те субъекты, без которых и актуальные, и будущие реформы невозможны в полноценном виде. Сегодня необходимо ввести эти группы основных игроков в “Диалог о модернизации”.

Сейчас эксперты, осознавая эту проблематику и необходимость такого шага, начали раунд консультаций с этими субъектами.

Прошла встреча с политическими партиями и с Национальной платформой Форума гражданского общества. Платформа проявила достаточно конкретный интерес в отношении модернизационного диалога, содержания работы экспертных групп, выразила заинтересованность в заказе определенных разработок и реализации этих разработок внутри Беларуси для привлечения внешних ресурсов.

**— А в чем новизна “Диалога о модернизации”? Ведь и раньше ЕС, с одной стороны, и эксперты, политики, гражданское общество — с другой — поддерживали некие контакты, высказывали какие-то идеи.**

— Тут по-разному можно относиться к тому, что делается Евросоюзом в Беларуси. Можно видеть повторение всего или видеть новые возможности. Я предпочитаю рассматривать “Европейский диалог о модернизации” не с точки зрения, чего хочет и что может делать ЕС, а с позиции: как нам, белорусам, воспользоваться этой инициативой? То есть как нам ее наполнить тем содержанием, которое нам нужно, и как это использовать в национальных интересах?

Новое же тут — это то, что Евросоюз впервые, в общем-то, создает пространство для диалога с серьезным вовлечением в него и структур ЕС, и стран-членов, что повышает наш уровень взаимодействия, дает возможность привлекать самое лучшее из ЕС, повышает возможности политического сотрудничества.

Кроме того, “Диалог о модернизации” в перспективе может перерасти в площадку, где, возможно, будет проводиться обсуждение реформ в Беларуси самого разного порядка в трехсторонней структуре — с участием государства, гражданского общества и ЕС, который может выступать как посредник. Потенциально “Диалог о модернизации” как процесс может перерасти в такую переговорную площадку.

**— А есть ли какой-то шанс все же вовлечь государственных экспертов в эту инициативу, в работу экспертных групп при нынешней власти?**

— Думаю, да. И здесь часто возникают области, где белорусское государство заинтересовано в определенных реформах. Но реализовать их оно не может без вовлечения независимых экспертов и без внешних ресурсов, которые может предоставить, например, ЕС.

И вот в таких областях возможно сотрудничество и сейчас, если на то будут хотя бы минимальное желание и воля со стороны белорусского государства. Причем это в глобальном смысле не несет никакой угрозы существованию современной политической системы Беларуси.

**— Об этой инициативе знают сами эксперты, знают журналисты, но простым белорусам она пока мало известна. Как их заинтересовать “Диалогом о модернизации”?**

— С населением как раз и работают средства массовой информации. Нельзя же организовывать экспертные обсуждения с населением. Информация о происходящем должна быть донесена до людей. Как и то, что “Европейский диалог о модернизации” несет возможность обновления, изменений в их жизни в частности и в жизни страны в целом.

А сейчас, как свидетельствуют социологические опросы, более 70% населения заинтересовано в переменах. Нужно показать, что этот инструмент действительно может помочь провести изменения в Беларуси. Причем наиболее реальная форма каких-либо изменений в нашей стране — это именно общественно-политический диалог.

**Татьяна КОРОВЕНКОВА, БелаПАН.**

СИТУАЦИЯ

# К вопросу о «китайском» инвесторе

*“Народная Воля” продолжает отслеживать события, которые разворачиваются вокруг МО ОАО “Луч” (управляющая компания холдинга “Обувь— “Луч”).*

На днях состоялось общее собрание акционеров МО ОАО “Луч”. В этом году собрались уже в пятый раз.

— Насколько известно, собрание было созвано с целью признать предложения некой китайской компании наиболее соответствующими статусу стратегического инвестора и позволяющими обеспечить комплексное технико-экономическое и производственное развитие холдинга, а также принять решение о дополнительном выпуске акций общества. Насколько соответствует действительности сообщение о том, что “Луч” наконец определился со стратегическим инвестором?

— Не соответствует, — рассказывает один из акционеров **Степан БУЮКЛЫ**. — Сумма соглашения МО ОАО “Луч” с инвестором, претендующим на роль стратегического для участия в инвестиционных проектах холдинга, как стало известно на собрании, должна составить порядка 40 миллионов долларов США. То есть сумму, превышающую балансовую стоимость активов общества в несколько раз. Очевидно, что речь идет о крупной сделке акционерного общества. В соответствии с Уставом общества принятие решения о совершении крупной сделки, предметом которой является имущество стоимостью 50 и более процентов балансовой стоимости активов общества, принимается на общем собраниим акционеров большинством не менее трех четвертей голосов от числа голосов лиц, принявших участие в собрании. Высший орган управления МО ОАО “Луч” не принял решения о заключении инвестиционного договора с китайским инвестором. Решение указанного собрания поручить генеральному директору продолжить работу с китайской фирмой по привлечению инвестиций, принятое простым большинством, носит декларативный характер. Подобные переговоры могут и должны проводиться и с другими компаниями, заинтересованными в участии в инвестиционных проектах холдинга.

Как сообщил БелаПАН генеральный директор управляющей компании холдинга Н.Ф.Стриж, “один-два крупных акционера не проголосовали за принятие решение провести дополнительную эмиссию акций в объеме 25% уставного фонда, мы их будем убеждать”.

— В проекте решения собрания, предложенном инициаторами его созыва, речь шла о дополнительном выпуске акций, которые составляют не 25%, как утверждает генеральный директор “Луча”, а 33% от действующего уставного фонда акционерного общества, — добавляет Степан Буюклы. — Не один-два крупных акционера не проголосовали за предложенное решение, а акционеры, владеющие в совокупности более чем 20% всех акций акционерного общества, что составило 34% от присутствующих на собрании. Они выразили своим голосованием негативное отношение к попытке руководства холдинга в условиях, когда почти целый год ценные бумаги общества заблокированы и никто не имеет никакого представления о возможной цене акций общества, продать за 3,5 миллиона долларов США практически контрольный пакет акций огромного предприятия стоимостью как минимум 70 миллионов долларов США. При этом, предложив провести дополнительную эмиссию акций в таком количестве, управляющая компания практически лишает акционеров возможности когда-либо реализовать свои ценные бумаги по приемлемой цене.

**— Как можете прокомментировать то факт, что дополнительную эмиссию планировалось провести с целью передачи государству ценных бумаг общества?**

— Весь ход обсуждения вопроса повестки дня собрания о дополнительной эмиссии акций и предложенного проекта решения свидетельствовал о том, что дополнительный выпуск акций общества предполагалось осуществить в интересах именно китайской компании. Что касается намерений правительства, о которых так много говорят, то это пока всего лишь намерения. Приобрести пакет акций МО ОАО “Луч” в размере не менее 25% от его уставного фонда можно и без дополнительного выпуска акций общества. Разблокировав ценные бумаги акционерного общества, правительство имеет возможность сформировать государству необходимый пакет акций МО ОАО “Луч” путем приобретения 21% акций, которыми владеют в сумме само акционерное общество и его дочерние компании, а также 5,44% акций общества, принадлежащих “Приорбанку”, который, по заявлению его представителя на одном из общих собраний, на тот момент имел намерение их реализовать.

**— В планах холдинга “Обувь — “Луч” увеличить к 2015 году выпуск обуви до 3 млн пар...**

— Я хотел бы напомнить, что МО ОАО “Луч” на существующих мощностях в свое время выпускало даже большее количество обуви. Сейчас, на мой взгляд, главное — расставить приоритеты в стратегии развития общества. И это не поиски “китайских” инвесторов, главная цель которых увеличивать в арифметической прогрессии поставку своих заготовок холдингу, а объявление политики “открытых дверей”. Для тех партнеров, которые располагают достаточно серьезными сетями для реализации нашей продукции за пределами страны.

**— 2 ноября будут выборы нового состава Наблюдательного совета. Чего следует ожидать?**

— Предлагается увеличить общее количество членов совета с 7 до 9 человек. В том числе количество представителей государства также, вероятнее всего, увеличится с 1 до 3 членов наблюдательного совета и составит чуть более 33% от всех голосов этого органа управления акционерного общества.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

СПРАВА БЯЛЯЦКАГА

*Валер КАЛІНОЎСКІ*

*(Пачатак у №№ 145—146, 149—168.)*

# Галоўная тайна турмы

Першае спатканне з жонкай Алесь Бяляцкі атрымаў пасля прысуду ў канцы лістапада 2011 года. Наталлю на гадзіну пусцілі ў спецыяльны пакой для наведванняў у турме на вуліцы Валадарскага ў Мінску. Другое і трэцяе спатканні з жонкай Алесь атрымаў ужо ў снежні, калі яго перавялі ў Жодзінскую турму. Размова праходзіла праз шкло і краты з выкарыстаннем тэлефонных апаратаў. У час спаткання забаронена абмяркоўваць умовы ўтрымання ў турме, гаварыць на замежнай мове, аднак па-беларуску гаварыць дазваляюць. Наталля кажа, што пасля сустрэчы ў Жодзіне мела сапраўдны шок ад усёй гэтай абстаноўкі, нават забылася ў турме свае рэчы і рэчы Алеся, якія ёй перадалі:

“На „Валадарцы“ атмасфера была не такая жорсткая, і таму я, нягледзячы на тое, што гэта першае спатканне, адчувала сябе больш спакойна. Пагаварылі, і нібы ад сэрца нешта адлягло. Я супакоілася, шчыра кажучы. Я ўжо не памятаю, пра што мы гаварылі. Я разумела, што наша размова праслухоўваецца, але тым не менш была ілюзія таго, што ты сам-насам з мужам. Чыста эмацыйна ў мяне такое ўражанне склалася. А жодзінскія спатканні для мяне былі такія трывожныя, нават „стромныя“.

Ніякага афіцыйнага тлумачэння, чаму пасля суда і да ўступлення выраку ў сілу, да разгляду касацыйнай скаргі Алеся перавялі з “Валадаркі” ў Жодзінскую турму, не далі. Гэтак распарадзіўся Дэпартамент выканання пакаранняў. Умовы ўтрымання ў Жодзіне нашмат горшыя, сведчыць былы палітвязень, экс-кандыдат на выбарах прэзідэнта Беларусі 2006 года Аляксандр Казулін. Ён быў і на “Валадарцы”, і ў Жодзіне: *“У Жодзіне законы іншыя, там нашмат больш жорсткія ўмовы нагляду, чым на „Валадарцы“. На ложак удзень нельга прылегчы, ногі выцягнуць няма куды, можна толькі сядзець. Праз кожныя тры хвіліны назіральнік падглядвае ў вочка дзвярэй, псіхалагічна трымаючы ў напрузе, штодня па паўгадзіны трэба сыходзіць на так званы шмон — ператрасаюць усе рэчы вязняў. Прагулкі адбываюцца ў дворыку на сем крокаў у адзін бок. Сем туды — сем назад. Выводзяць цэлымі камерамі, таму на прагулцы адчуваеш сябе як селядзец у бочцы. Бібліятэка ёсць, але кніжкі малацікавыя. Пісаць нешта можна, але не ўсё, што ты напішаш, выйдзе за межы турмы”.*

Аляксандр Казулін у турме вёў дзённік, дзе склаў сярэдні псіхалагічны партрэт наглядчыкаў. Ён уяўляе з сябе амаль навуковую працу з наступнай высновай прафесара Казуліна: *“Такім людзям нельга працаваць з вязнямі з-за іх схільнасці да садызму і праяў жорсткасці, схільнасці да правакацый у адносінах да вязняў, ад чаго яны атрымліваюць асалоду”.* Гэтыя запісы Казулін аддаў начальніку Жодзінскай турмы, але ніякіх высноў той не зрабіў: кадраў і так не хапае, штат наглядчыкаў запоўнены ўсяго на 80 працэнтаў, таму начальства, нават калі яно і кіруе турмой у рамках закона, мусіць працаваць з такімі ахоўнікамі, якія там ёсць. Палітычным вязням у беларускіх турмах больш складана, чым іншым, яны быццам пад мікраскопам. Звычайных вязняў накіроўвалі ў штрафны ізалятар толькі за тое, што хтосьці з іх пагутарыў з Казуліным. А той турэмны дзённік яму так і не вярнулі.

Сёння Казулін, якому ў турме дапамагала “Вясна”, пільна сочыць за лёсам палітзняволенага Алеся Бяляцкага.

*“Мне падаецца, што ў адрозненне ад многіх ён усё робіць усвядомлена. А гэта надае нейкую стойкасць духу і дазваляе прымаць непазбежнае як магчымасць праходжання новых універсітэтаў жыцця. Таму мне падаецца, што Алесь усё вытрымае годна і, у пэўным сэнсе, з карысцю для сябе, таму што лепшага месца, для пазнання сябе, чым турма, няма”.*



З турмы Бяляцкі прасіў жонку, каб яна пераслала матэрыялы, патрэбныя яму, каб пісаць успаміны. Але адміністрацыя вельмі рэдка прапускала друкаваныя тэксты. Калі паплечнікі з “Вясны” зрабілі серыю сваіх фатаграфій на фоне восеньскага Мінска, каб Алесь мог пабачыць восень 2011 года, адміністрацыя дазволіла яму пакінуць у сябе ўсяго толькі два здымкі.

Часам дзеля забавы ў лістах родным Бяляцкі распавядае, якія блатныя песні напяваюць сукамернікі, а неяк напісаў жонцы, што значыць татуіроўка “клён”. Яна расшыфроўваецца так: “Клянусь любить её навсегда”.

Пра тое, што найбольш хвалюе жонку, родных і сяброў Бяляцкага: якія ўмовы ўтрымання, як ставіцца адміністрацыя, ахоўнікі, ці не здзекуюцца з яго, — пісаць забаронена, цэнзура не прапускае. Гэта — самая страшная турэмная тайна.

Вядома, што Алесь прыязна размаўляе з тымі, хто сядзіць з ім разам. Ён не толькі ўспрымае гэта як свой абавязак праваабаронцы — гэта адпавядае ягонаму характару, кажа калега Бяляцкага Валянцін Стэфановіч. Ён даведаўся, што, калі Бяляцкі рэпеціраваў у камеры “Валадаркі” сваё апошняе слова ў судзе, уся камера аж качалася ад смеху: Алесь даваў ацэнкі працы следчых, судовых доказаў і сведчанняў у судзе. Аднак, выступаючы з апошнім словам ужо на судовым пасяджэнні, Бяляцкі быў сур’ёзны.

Апрача падрыхтоўкі да судовых пасяджэнняў і перапіскі з тымі, хто на волі, Алесь у турме шмат чытае, удасканальвае сваю англійскую мову, робіць фізічныя практыкаванні, піша мемуары. Пра гэта ён паведаміў у адным з лістоў:

*“Тут болей няма чаго і рабіць, як лісты чытаць і пісаць самому (чаго не рабіў ужо гадоў 15). Уцягнуўся ў тутэйшае жыццё збольшага, гляджу тэлевізар (тут два каналы бярэ), вучу (крыху падвучваю) англійскую, чытаю”.*

У іншым лісце ён напісаў, што бібліятэка ў СІЗА “на дзіва не такая і благая”: “Нават на наступны раз я беларускія кніжкі замовіў. Іх тут развозяць двойчы на месяц”. У ізалятары сярод іншага Алесь перачытаў кнігу Варлама Шаламава “Калымскія апавяданні” — пра побыт у ГУЛАГу.

Фізічныя практыкаванні абудзілі апетыт: “У мяне зноў з’явіўся апетыт, першы тыдзень зусім не хацелася есці. Таксама я вывучаю мясцовыя правілы паводзінаў: калі есці, калі хадзіць на „дальняк“ — тут усё рэгламентавана, але вельмі паважаецца асабістая недатыкальнасць (прастора) вакол вязня і наша ўбогая ўласнасць, калі толькі ты сам не назаляеш іншым, — напісаў Алесь неўзабаве пасля арышту. — Жыццё для мяне тут спынілася, калі параўнаць з апошнім годам, але ў гэтым таксама ёсць свой пазітыўны сэнс, бо ёсць час шмат думаць. Але я сябе не накручваю, не строю ніякіх вялікіх планаў, усведамляючы, што шмат у маім жыцці цяпер залежыць не ад мяне асабіста, а ад знешніх фактараў. Словам, я плыву па рацэ лёсу і рыхтую сябе да любога развіцця падзей”.

*(Працяг будзе.)*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Туз у рукаве, гуз на галаве

**Прэзідэнт “ператасаваў” кіраўнічыя міліцэйскія кадры. Начальнікам Мінскага абласнога УУС стаў палкоўнік з міністэрства, у сваю чаргу мінскі абласны начальнік паехаў у Брэст, а брэсцкі — у Гродна.**

*Два бэйбусы, Антон і Пашка,*
*Па вёсцы гойсалі штодзень.*
*Была адна ў іх мэта — пляшка,*
*І — заваліцца пад пляцень.*
*Вясковы люд на слоўца ёмкі:*
*Апойкаў згледзеўшы, народ*
*Пляваўся толькі:*
*— Пустадомкі!*
*Смалы заліць бы вам у рот!*
*...Той дзень ім не задаўся зранку.*
*Агнём гарэлі гарлякі,*
*Але ніхто —*
*Ну хоць бы шклянку! —*
*Ім не наліў.*
*Во жах які!*
*Не йшлі на працу, абібокі,*
*Каб зарабіць які рубель.*
*Улегліся пад клён высокі,*
*Расолам выганялі хмель.*
*Працэс ішоў задужа цяжка,*
*Ім лепей бырла “для рыўка”...*
*Каб час забавіць, карты Пашка*
*Дастаў з кішэні пінжака.*
*Антон на карты глянуў хмурна:*
*— Ты лепш “чарнілам” забяспеч...*
*У што гуляць? Ды толькі ў “дурня”,*
*Не ў прэферанс жа насамрэч...*
*Ды нецікава пляскаць карту*
*На гладкі пень у цішыні.*
*Патрэбна, каб дадаць азарту,*
*Мець нейкі стымул у гульні.*
*Які найлепшы “стымул нейкі”?*
*Ды грошы, ведама ж, рублі!*
*А ў пустадомкаў — ні капейкі,*
*Пустымі, мовіць так, былі.*
*Успомніў зэкаўскія звычкі*
*Сінюшны Пашка:*
*— Што, сябрук?*
*Давай з табой гуляць на пстрычкі.*
*За “дурня” б’ецца дзесяць штук.*
*Ад сябра атрымаўшы згоду,*
*Нібы ў турме не так даўно,*
*Стаў Пашка тасаваць калоду —*
*Як фокуснік усё адно.*
*Па ўсім відаць — “кідала” цёрты...*
*І карты ён раздаў калі,*
*Антон займеў адны шасцёркі,*
*А сам — тузы і каралі.*
*Таму, прынамсі, і не дзіва,*
*Што неўзабаве выйграў ён.*
*На Пашку зыркнуў незычліва,*
*Але падставіў лоб Антон.*
*Падставіў раз, другі і трэці,*
*Былі і іншыя “разы”...*
*Зароў Антон:*
*— Прыносяць чэрці,*
*Няйнакш, табе адны тузы!*
*Тут для Антона ўжо не жарты,*
*Бо на ілбе*
*Ускочыў гуз.*
*— Тасуй, нягоднік, добра карты,*
*Дык прыйдзе й мне казырны туз!*
*— Як трэба я тасую! — Пашка*
*Плюе на рукі-хадуны.*
*Ды розніцы зусім нямашка —*
*Антон, як і раней, “дурны”.*
*Смакуе Пашка асалоду,*
*А ў галаве Антона — звон...*
*Ад роспачы схапіў калоду*
*І сам затасаваў Антон.*
*На пень ён кідаў карты лоўка*
*І прыгаворваў:*
*— Мне, табе...*
*Аднак прайграў чамусьці зноўку,*
*Не гуз — “шышак” ужо на лбе...*
*А потым доўга, хоць і мірна,*
*Антон на долю наракаў*
*І не дапёр, што туз казырны*
*Хаваў сапернік у рукаў...*

* * *

*На выйгрыш мець спадзеў не варта,*
*Балець ад пстрычак галаве,*
*Калі ў цябе казырнай карты —*
*Туза —*
*Нямашка ў рукаве.*

ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ

## *Кругом одни верблюды...*

Уважаемая редакция!

Несколько лет назад “Народная Воля” напечатала заметку о выпуске предприятием “Пинскдрев” спичек, на этикетках которых красовался верблюд. Других мотивов рисунков, включая белорусские, не нашлось. По всей видимости, производители аналогичной продукции на фабрике “Гомельдрев” не читают “Народную Волю”, иначе чем объяснить появление на коробках бедуина с верблюдом? Это что, негласная поддержка “арабской весны”? А наши зубры, лоси и даже зайцы недостойны занять место на этикетках? Для наглядности высылаю вещественное доказательство — спичечный коробок гомельских производителей — и предлагаю новый бренд: “Купляйце беларускае з арабскім каларытам!”.




**Валерий КОЗУБОВ.**

*Гомель.*

ИЗ ПИСЬМА

## *Вспомним Якуба Коласа...*

Беларусь скатилась к авторитаризму после принятия в ноябре 1996 года новой редакции Конституции. Заложенные в ней механизмы не позволяют в принципе развиваться демократическим процессам.

В последнее время начались разговоры о возможных политических реформах. Об этом, правда, в осторожной форме сказал и Лукашенко.

На какие политические реформы может пойти автократия? На слепое копирование российской партии власти под нашим названием “Белая Русь”? Или на частичное введение пропорциональной системы выборов? Всё! В остальном “реформы” будут преследовать цель максимально ограничить свободы граждан. “Больше трех не собираться!” Власть панически боится гражданской активности народа.

Мне врезалась в память картинка о нервном состоянии А.Лукашенко после событий 19 декабря 2010 года. Он говорил тогда, видимо, искренне: “Никогда больше в Беларуси не будет “бязглуздай дэмакратыі”. Иными словами, выйти на свободу белорусский народ не имеет никаких шансов.

Только наивные люди, в том числе и политики, могут вещать о возможности в условиях диктатуры политических демократических реформ.

Авторитаризм нереформируем.

На мой взгляд, сегодня главную долговременную задачу оппозиции можно сформулировать кратко — **вернуть стране** Конституцию 1994 года, даже не ее саму, а **настоящий парламентаризм**, вернуть выборность сверху донизу. “Не народ для власти, а власть для народа” — это лозунг дня.

Изменить цивилизованно политическую конфигурацию в стране можно только путем всенародного референдума после победы на президентских выборах.

Вот почему так важно уже сегодня начать подготовку к очередным президентским выборам. К ним должна прийти сплоченная, монолитная оппозиция, объединенная единой целью, понятной народу.

Самой жизнью востребовано общенациональное демократическое движение — коалиция, включающая в себя оппозиционные партии, неправительственные, профсоюзные организации, активных граждан.

Еще раз вспомним слова нашего классика Якуба Коласа: *“На прастор, на шырокі разлог выхадзі, мой народ, грамадою...”.* Сейчас это актуально, как никогда.

**Эдуард Иванович ВАСИЛЬЕВ,**
**пенсионер,**
**бывший госслужащий.**

ОТ ДУШИ

## *Спасибо!*

Уважаемая редакция!

Мы, семья Иваниных — Владимир Пименович и Валентина Владимировна, оказались в затруднительном материальном положении: являясь инвалидами 2-й группы, нуждаемся в постоянных лекарственных препаратах, которые очень дорогие, а пенсию получаем небольшую — кот наплакал. Обратились за материальной помощью к начальнику отделения по социальной защитите населения Чернышёвой Ирине Ивановне. Ирина Ивановна очень душевный человек, нам в помощи не отказала. Произвели ремонт нашего дома, прикрепили к нам социального работника Светлану Григорьевну Мороз, которая также хорошо к нам относится и во всем нам помогает. Огромное спасибо за это!

**Пенсионеры-инвалиды ИВАНИНЫ.**

*г.Бобруйск.*

АДКРЫТЫ ЛІСТ У ГЕНПРАКУРАТУРУ ПАЛІТВЯЗНЯ ЗМІЦЕРА ДАШКЕВІЧА

# Не знішчайце ў чалавеку чалавечае...

“Ніхто не павінен падвяргацца катаванням, жорсткаму, бесчалавечнаму ці такому абыходжанню ці пакаранню, якое прыніжае яго годнасць”, — гаворыцца ў галоўным законе нашай краіны (артыкул 25 Канстытуцыі). Знаходзячыся ў месцах пазбаўлення волі, чалавек, здавалася б, мусіць захаваць гэтае канстытуцыйнае права. У дадатак да ўсяго і Кодэкс сведчыць: “Асуджаныя не павінны падвяргацца жорсткаму, бесчалавечнаму ці такому абыходжанню, якое прыніжае іх годнасць” (артыкул 10 Крымінальна-выканаўчага кодэкса).

Аднак, на жаль, цытаты гэтыя ў большасці выпадкаў застаюцца толькі прыгожымі словамі, вельмі далёкімі ад рэчаіснасці. І на волі трэба штодня змагацца за права людзьмі звацца, а пра беларускія турмы/зоны і гаварыць не выпадае — гэта месцы, дзе цынічна і паслядоўна знішчаецца ў чалавеку ўсё чалавечае, гвалтам маральным (які нават страшней за фізічны) выбіваецца апошняя людскасць.

Прывяду толькі адзін прыклад толькі адной з устаноў г.зв. “выхаваўчай” сістэмы РБ — турмы №2 г.Віцебска.



Турма №2, падаецца звонку даволі ўпарадкаванай і выхалашчанай установай: кафель паўсюль, шклопакеты і сантэхніка новая. Але калі ўлічыць некаторыя нюансы, дык лепш бы ўжо і без кафлі і са старой сантэхнікай. Нюанс асноўны, хто б мог падумаць, у лыжцы. Мець лыжку асобе пад вартаю ў Т2 катэгарычна забаронена. У чым тут логіка, я ніяк не мог даўмецца падчас свайго знаходжання ў гэтай дзівоснай установе.

На мой пісьмовы зварот на імя начальніка турмы з просьбай дазволіць мне мець лыжку адміністрацыя адмовіла, патлумачыўшы гэта тым, што ў камеры я не маю мажлівасці належным чынам яе апрацаваць (памыць то бок). Але ж “тлумачэнне” такое не вытрымлівае ніякай крытыкі, бо адміністрацыя ж выдае кожнаму ў камеру алюмініевы кубак і патрабуе ад вязняў утрымліваць яго не проста ў чыстым стане, а ў бліскучым. І, трэба зазначыць, вязні ўтрымліваюць — гадзіну-дзве на дзень, як вучыць адміністрацыя, шаруюць яго газетамі (у карцар ніхто не жадае). Апроч таго, падчас правядзення абеду другую страву выдаюць у той жа посуд, у які давалі першую, — у алюміневую талерку, якую дзеля другога павінны вымываць самі арыштанты. Выходзіць, кубак і талерку адміністрацыя мыць вымушае, а лыжку не дазваляе мець у камеры па той прычыне, што яе няма як памыць. Надзвычай лагічная, абгрунтаваная і законная сістэма атрымліваецца ў выніку.

Паводле гэтай сістэмы чалавек пры жаданні заварыць каву ці размяшаць у гарбаце цукар вымушаны рабіць гэта футлярам ад зубной шчоткі ці цюбікам з-пад зубной пасты. Ці не дзікунства?! Ці ўвогуле рэальна такое выдумаць?! Я ўжо маўчу пра тое, што з кубкаў гэтых (якія і кубкамі назваць язык ледзь паварочваецца: зэчка — такую назву атрымаў дадзены посуд ад ЗК) немажліва ніякім чынам піць нешта гарачае — аблазяць вусны: дзюральалюміній заўсёды гарачэйшы за саму страву ў ім. Я і пра тое маўчу, што ў зэчцы гэтай, канешне, няма вушка ніякага, і таму трэба закручваць газеткі вакол яе і ў гэткіх ухватках насіць кіпень ад разеткі, якая ля падлогі побач з дзвярыма, на стол. Я маўчу пра тое, што, калі ў неабедзенны час і кашу якую заварыць жадае няшчасны арыштант, ён таксама робіць гэта ў зэчцы (калі лыжка забаронена, дык талерка — тым болей!) і есці кашу гэтую павінен — правільна! — футлярам ад зубной шчоткі ці цюбікам з-пад зубной пасты (ну, гэта ўжо на любіцеля).

Дык ці можна такі стан рэчаў назваць адпавядаючым чалавечай годнасці? Ува што пераўтварае МУС РБ чалавека ў турмах? Перадусім жа яшчэ не будзем забываць, што ў СІЗА знаходзяцца дэ-юрэ людзі невінаватыя, і нават у нашай краіне некаторыя ўмудраюцца-такі сваю невінаватасць даказаць. Але нават калі і вінаваты чалавек у нейкім злачынстве, дык у якім кодэксе прапісана чыніць гвалт над асобай?! Якім законам забаронена карыстацца лыжкай? Які нарматыўна-прававы акт загадвае заварваць кашу толькі ў алюмініевай зэчцы і спажываць яе толькі футлярам ад зубной шчоткі?!

Чаму б не дазволіць мець чалавеку, калі ён яшчэ чалавек, а не жывёла бязмоўная, талерку, нармальны кубак пластмасавы ды з ручкаю, у рэшце рэшт — лыжку?! Няўжо гэта пагоршыць крымінагенную абстаноўку ў следчым ізалятары? Няўжо бунт падымецца? Няўжо пахіснецца г.з. працэс “перавыхавання”? Ды не, не да перавыхавання асобы імкнецца турма беларуская і зона. Турма беларуская і зона чамусьці маюць іншую першасную задачу: усяляк прынізіць, маральна растаптаць асобу, прымусіць чалавека забыць пра тое, што ён чалавек — вобраз і падабенства Божае. Зрэшты, калі ўлічыць, што турма — гэта міні-копія дзяржавы нашай, дык усё становіцца зразумела. Але ці не думаеце вы, панове, што дасягаеце толькі адваротнага выніку? Ці не ўсведамляеце вы, што гэткімі здзекамі толькі азлабляеце людзей? Няўжо яшчэ не разумееце вы, што рана ці позна, але ж апошнія стануцца першымі, а першыя — апошнімі? Што ў перакладзе на нашу рэчаіснасць азначае: рана ці позна тыя, хто сёння есць футлярамі ад зубных шчотак, заўтра будуць есці лыжкамі, а тыя, хто сёння есць лыжкамі, заўтра будуць есці футлярамі ад зубных шчотак. Што вы будзеце рабіць тады, патрыцыі, можа, запатрабуеце лыжку? Можа, але не ведаю толькі, ці дадуць вам? Я з-за страху перад Судом Вышэйшым даў бы. Але тыя, каго вы так доўга і мэтанакіравана перавыхоўваеце, могуць і не даць. А можа быць, вы самі надзялілі іх на тое маральным правам?

**Зміцер ДАШКЕВІЧ,**
**ПК-20.**

ІРАНІЧНАЯ ПАЭЗІЯ



Фота Д. Кунстадтара

*Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК*

# Вершы для Хомкі

*Размаўляць з сабакам іншы раз цікавей, чым з чалавекам.*

*Чалавек цябе можа слухаць, але ягоная ўвага ў гэты момант хутчэй за ўсё ахоплена абыякавасцю, раздражнёнасцю, зайздрасцю, а то і непрыхаванай злосцю.*

*Увага ж сабакі — гэта заўсёдная дабрыня!*

*Чалавеку павучыцца б у сабакі...*

*Што можа адбыцца на вуліцы, у грамадскім транспарце, калі вы незнарок штурхняце сабе падобнага?*

*Можа нічога не адбыцца, і дзякуй Богу!*

*Бо ёсць яшчэ людзі шляхетныя...*

*Але часцей за ўсё, нават і тады, калі вы папросіце прабачэння, пачуеце пра сябе ўсё што хочаце!*

*Тут вам будзе і незадаволенасць, і крык, і лаянка!*

*А штурхніце незнарок сабаку?*

*Ды ён, калі ляжыць, падымецца і без ніякай незадаволенасці адыдзе ўбок — лёгка саступіць вам дарогу!*

*Прыродны настаўнік, сабака сваімі самавітымі паводзінамі можа навучыць і цярплівасці, і сапраўднай весялосці.*

*Не, сабака — гэта не проста свойская жывёлінка, гэта філасофія!*

*А гутаркі з сабакам — з'ява ў літаратуры і вядомая, і змястоўная.*

*У якасці прыкладу нагадаю знакамітыя "Лісты да сабакі" Язэпа Пушчы.*

*Гэтыя лісты — напружаныя і драматычныя па сваім гучанні, а мае вершы для Хомкі наадварот — светлыя, іранічныя, часам з нотай сацыяльнай і палітычнай сатыры.*

*Але хто такі Хомка?*

*Французскі бульдог — асалода маёй сям'і!*

*Яму пяць з паловай гадоў; у ягоны пашпарт было ўдрукавана ідыёцкае імя — Дэрык.*

*Мы пагарталі расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік В.Ластоўскага і знайшлі роднае імя — Хомка...*

*Хомка любіць, калі з ім размаўляюць па-беларуску; Хомка любіць рытмізаваную гаворку на зразумелыя, газетныя, народныя тэмы!*

*Так і пачалі з'яўляцца яны — вершы для Хомкі.*



Фота А. Паплаўскай

## Хомка і суддзі

*Неяк Хомка ў вольны час*
*Бег і ў суд забег якраз,*
*І ў судзе (ну, што хлусіць!)*
*Стаў ён суддзям гаварыць,*
*Гледзячы на ўсіх зараз:*
*"Суддзі, помніце, і вас*
*Будуць гэтак жа судзіць!"*

## Хомка і хакей

*Павялі, як тых дзяцей,*
*Хомку неяк на хакей...*

*А яшчэ прыгналі ўслед*
*Цэлы ж універсітэт!*

*Школы тут і ўсе ліцэі —*
*Сумна на такім хакеі!*

*І з лядовага палаца*
*Хомка кінуўся хавацца!*

## Хомка і АМАП

*Бег з усіх, як кажуць, лап*
*З аркі ў парк, а там — АМАП!*

*І АМАП той крыкнуў так:*
*"Парк закрыты для сабак!"*

*"Свята горада — у парку!" —*
*Так яшчэ крычаў АМАП...*
*І Хама вярнуўся ў арку*
*Зноў з усіх, як кажуць, лап.*

## Хомка і шок

*Хомка трапіў у мяшок*
*І спазнаў вялізны шок!*

*Засмяяліся з Хамы*
*Ад сваёй дурноты мы.*

*І з мяшка, нібы з ярма,*
*Вылез і сказаў Хама:*

*"Як патрапіце ў мяшок,*
*Большы вас ахопіць шок!"*

## Хомка і прашэнне

*Пра зімовае адзенне*
*Хомка склаў сваё прашэнне*
*І, свайму прашэнню рады,*
*Паляцеў у Дом урада.*

*Але гэты Дом урада*
*Не схацеў прыняць Хаму*
*І не даў ніякай рады*
*Ў чым Хаме сустрэць зіму!*

*"Негасцінны Дом урада,*
*Як надарыцца зіма,*
*Хай заваліць снегападам,*
*Лёдам затаўчэ і градам!.." —*
*Горка думаў так Хама.*

## Хомка і пенсія

*Хомка з вопыту свайго*
*Вельмі добра знае:*
*Хто рабіў, то — у таго*
*Пенсія малая!*

*Той, хто языком малоў*
*Скрозь па кабінетах,*
*Пенсію на шмат нулёў*
*Намалоў за гэта!*

*Хомка з вопыту свайго*
*І без ашуканства*
*Кажа: "Пенсія — ого,*
*Толькі ж у начальства!"*

## Хомка і карона

*Хомка ў парку над ракою*
*Дзіва напаткаў такое:*
*У траве ляжыць карона,*
*А над ёй крычыць варона!*

*І крычыць варона тая,*
*Крылы выгнуўшы свае,*
*Што карона залатая*
*Ўпала з галавы яе!..*
*Хомка паглядзеў налева*
*І направа, і — увыш,*
*І спытаў: "Ты — каралева?*
*Не?! Тады чаго крычыш?!*

*Села? Дык сядзі на дрэве!..*
*А каронную красу*
*Я сапраўднай каралеве*
*Сам у Лондан занясу!"*

## Хомка і гэткі свет

*Хомка бачыць: скрозь, вакол*
*То хакей, а то футбол;*
*То футбол, а то хакей...*
*Адусюль гучыць: "О'кэй!"*
*Кожны жук гаворыць: "Ваў!"*
*Дэрбі-шмэрбі,*
*Брокер-шмокер!*
*Не палітыка, а покер!*
*Гэткі свет...*
*Каб ты прапаў!*

## Хомка і генерал

*Хомка бег і ля вакзала*
*Ўбачыў раптам генерала!*

*З ім яшчэ былі жаўнеры*
*І, вядома ж, афіцэры;*

*Маладыя аркестранты,*
*Рота ганаровай варты...*

*Словам, войска праважала*
*У дарогу генерала!*

*"Што карысці з генерала?" —*
*Думаў Хомка ля вакзала...*

*Не прыдумаўшы нічога,*
*Зноў пабег сваёй дарогай.*

## Хомка і Шэнген

*Хомка радасна ў Шэнген*
*Просіць візу і ўзамен*
*Прапануе ён Шэнгену*
*Паказаць такую сцэну:*
*Лапу даць, у нос лізнуць*
*І хвастом зрабіць круць-круць!*

*— Добра! — так сказаў Шэнген. —*
*Гэта выгадны абмен!*
*Візу на табе дарма —*
*Прыязджай да нас, Хама!*

## Хомка і выбары

*Прагаласаваць адразу —*
*Хомка гэткі клопат меў!*
*Грамадзянскі абавязак*
*Хомка выканаць хацеў!*

*Ды на выбарчым участку*
*З выгляду ён стаў няшчасны.*
*Розуму не мог дабраць:*
*За каго галасаваць?!*

*На партрэтах — толькі людзі,*
*А пра іх сказаў пясняр,*
*Што яны ўсе "...б'юцца ў грудзі..." —*
*Словам, ведамы тавар!*

*Прэцца гіцаль усялякі*
*Ў дэпутаты, як назло,*
*І ніводнага сабакі*
*Ў дэпутаты не было!*

*Кожны злодзей і зараза —*
*Гэткіх кандыдатаў цьма!*
*Грамадзянскі абавязак*
*Свой*
*Не выканаў Хама!*

## Хомка і пракурор

*Беспрацоўны пракурор*
*Запытаў Хаму ва ўпор:*
*"Ты, сабака-забіяка!*
*Ты куды бяжыш, сабака?"*

*Вушы ўскінуўшы старчма,*
*Адказаў яму Хама:*
*"Я бягу, куды магу,*
*І якраз туды бягу!"*

*Уздыхнуў тут пракурор,*
*Рукі белыя пацёр*
*І на сіні свой мундзір*
*Тры слязіны пасадзіў:*

*"А мяне, такі загад,*
*З пракурорства і пад зад!*
*Я цяпер — пенсіянер;*
*Чым заняцца мне цяпер?!"*

*І Хама — душа сама! —*
*Раду даў яму Хама:*
*"Калі вольны, дык давай*
*Разам бегаць з краю ў край!*

*І тады шчасліва ўсім*
*Крыкнеш ворагам сваім:*
*"Я бягу, куды магу,*
*І якраз туды бягу!"*

## Хомка і кіно

*Хомка паглядзеў кіно*
*Пра віно і даміно*
*І сказаў сабе: "Яно —*
*Нецікавае кіно,*
*Бо яно пра даміно*
*І бясконца пра віно...*
*Лепш глядзець ужо ў акно,*
*Чухаць лапаю сцягно,*
*Чым такое мець кіно!*
*Не кіно, а проста дно!..*
*Зрэшты, мне — усё адно:*
*Хай і гэтае кіно*
*Стракаціць уволю,*
*Як для знаўцаў даміно,*
*Так і алкаголю!"*

## Хомка і цырк

*Хомка наш прыдумаў шоу*
*І ў Дзяржаўны цырк прыйшоў ён.*

*Ды сказалі Хомку там:*
*"Не патрэбна шоу нам!"*

*Хомка лапай морду выцер:*
*"Вы хоць шоу паглядзіце!"*

*"Не, глядзець не будзем мы!" —*
*Пасмяяліся з Хамы.*

*"Ну й казлы!!! — падумаў Хомка. —*
*Лапай гэтаю, як фомкай,*
*Ноччу цырк ваш адчыню*
*І пушчу сабак гайню!"*

## Хомка і дэпутаты

*У сярэдзіну Палаты*
*Хомка заляцеў няўчас,*
*Бо ў Палаце дэпутаты*
*Рукі паднялі якраз!*

*Пэўна ж, у Авальнай зале*
*Сапсавалася табло,*
*І таму галасавалі —*
*Як пры Сталіне было!*

*Рукі ўсе як ёсць — дазвання! —*
*Узляцелі, і таму*
*Гэтакім галасаваннем*
*Напалохалі Хаму!*

*Напалоханы без меры,*
*Хомка паляцеў у дзверы:*
*"Каратысты, пэўна, тут?!.*
*Фізкультурны інстытут!.."*

## Хомка і паўстанне

*Не, ніхто не хоча буры*
*І ніякай авантуры —*
*Проста шэпчуць там і тут:*
*"Супраць кволай дыктатуры*
*Ці паўстане кволы люд?!"*

*І на гэтае пытанне*
*Хомка адказаў тады:*
*"Ды не будзе ў нас паўстання,*
*Бо — у крамах шмат яды!"*

## Хомка і лохі

*Угаворваў лоха лох*
*Прачытаць ягоны блог.*
*"Гэта лепшы ў свеце блог!" —*
*Так хваліўся лоху лох.*

*"Я даўно вядомы блогер*
*І таму — усё мне похер!*
*Я, здыхаючы, не здох,*
*Бо сабе самому бог!*
*Я працую за пяцёх*
*Без ніякіх мух і блох,*
*І таму чытай мой блог!" —*
*Прыставаў да лоха лох.*
*Хомка пастаяў ля лохаў —*
*Выгляд лохаў не палохаў.*
*Лоху, што як пень маўчаў,*
*"Не чытай!" — Хама сказаў.*

## Хомка і хам

*"Хомка, што чарнее там?"*
*Хомка кажа: "Гэта хам!*
*Але хам не толькі там,*
*Хам часцей бывае тут,*
*І, што з ім бывае хам,*
*Радуецца родны кут!"*

## Хомка і "как"

*Хомка ведае, што "как" —*
*Тое ж самае, што й "як"!*

*І хацеў бы ён, каб "як"*
*Тут казалі, а не "как"!*

*Бо замест таго, каб "какаць",*
*Беларусам лепей "якаць"!*

## Хомка і крэдыты

*Банк хваліў свае крэдыты!*
*Хомка тут без лішніх слоў*
*Банку так сказаў: "Ідзі ты ...!"*
*Банк паслухаў і пайшоў!*

## Хомка і агітатары

*Агітатары стаялі;*
*Не маўчалі, а крычалі;*
*Столькі выкладалі сілы —*
*Ажно з шыяў лезлі жылы!*

*Кожны галасіў з імпэтам*
*То пра гэта, то пра тое,*
*А пасля ізноў пра гэта*
*І пра тое гнаў пустое!..*

*Агітатараў гарачых*
*Хомка не аднойчы бачыў*
*І ля іх любіў прыстояць:*
*Агітатары гавораць!*

## Хомка і дурабачанне

*Хомку ўсе тэлеканалы*
*Дуратою даканалі,*
*І няма тэлеканала,*
*Дзе б душа адпачывала!*

*Выйсця з гэткае заганы*
*Не шукае, бо рахманы,*
*І гаворыць: "От, сяджу...*
*Дурабачанне гляджу..."*

РЭГІЁНЫ

## *Прамяняў цягнік на грыбы*

*Дызель-цягнік не змог у час выправіцца ў дарогу, бо машыніст пайшоў у грыбы.*

Каб з карысцю правесці вольны час на канцавой станцыі, кіроўца дызеля адправіўся за грыбамі. Ціхае паляванне так захапіла машыніста, што ён заблукаў. Калі ў патрэбны час мужчына не прыйшоў на працоўнае месца, з Брэста тэрмінова выехала іншая брыгада. З гадзінным спазненнем цягнік усё-такі адправіўся.

Цікава, што разгубленага грыбніка адшукалі толькі праз некалькі гадзін каля мяжы з Украінай...

## *Вельмі хацеў на волю, а трапіць за краты*

*Юнак падрабіў подпіс у працоўнай кніжцы, каб не адпрацоўваць размеркаванне.*

Выпускнік Бабруйскага дзяржаўнага аграрнага эканамічнага каледжа так хацеў змяніць працу, што пайшоў на падман. Замест таго каб адпрацоўваць размеркаванне на пасадзе галоўнага бухгалтара ў сельгасарганізацыі, малады чалавек падрабіў подпіс свайго начальніка і "звольніў" сябе, зрабіўшы адпаведны запіс у працоўнай кніжцы.

Падман быў надзвычай нахабным — юнак уладкаваўся на новую працу і проста перастаў прыходзіць на старую. Калегі звярнуліся ў міліцыю, а праваахоўнікі раскрылі падман. "Знаходліваму" юнаку пагражае да двух гадоў пазбаўлення волі.

## *Каменны і бронзавы вякі вярнуцца ў Магілёў*

*Міжнародная канферэнцыя "Капыцінскія чытанні" пройдзе 30—31 кастрычніка ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя Аркадзя Куляшова.*

Вучоныя з Беларусі, Расіі і Украіны будуць абмяркоўваць тое, што было сотні гадоў таму, — археалогію каменнага, бронзавага, жалезнага вякоў, сярэднявечча, эпіграфіку, нумізматыку і гістарыяграфію Беларусі.

Дарэчы, у межах канферэнцыі магчыма навуковая навіна — дацэнт кафедры археалогіі і спецыяльных дысцыплін Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Куляшова Аляксандр Агееў і дэкан факультэта прыродазнаўства Ігар Шаруха паспрабуюць даказаць, што далёкія продкі сучасных жыхароў Шклова перасяліліся на новае месца з-за змены русла Дняпра.

## *Расплата за «чорта ў рабрыну»*

*Неасцярожныя словы справакавалі сапраўдны дэтэктыў.*

У міліцыю па дапамогу звярнуўся 24-гадовы малады чалавек. Ён скардзіўся, што на яго наладжана сапраўднае паляванне — невядомы пагражае жыццю, збівае, патрабуе аддаць 500 долараў.

Аказалася, нагодай для катаванняў стала... любоў. Ці сумесная ноч пацярпелага і нейкай 18-гадовай жыхаркі горада Ліды. Малады чалавек збалбатнуў знаёмаму аб гэтым інтымным моманце, а той у сваю чаргу перадаў юнай німфе. Дзяўчына так раззлавалася на каханка, што папрасіла свайго знаёмага "наказаць" балбатуна. Той і адпомсціў яму, як палічыў патрэбным.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ПАНТЭОН ГЕРОЯЎ

# Ці заслугоўваюць помніка тыя, хто змагаўся супраць савецкай улады?

*Пару тыдняў таму з'явілася навіна аб тым, што ўкраінцы просяць ушанаваць у Беларусі памяць бандэраўцаў. Дэпутат Львоўскай абласной рады і прэзідэнт Дабрачыннага фонду "Украіна—Русь" Расціслаў Наважэнец звярнуўся да А.Лукашэнкі з просьбай даць дазвол на ўстаноўку мемарыяльнай дошкі Украінскай паўстанцкай арміі.*

*Як паведамляюць украінскія СМІ, яна павінна з'явіцца ў ваколіцах вёскі Дзівін на Кобрыншчыне. Аргументуецца ўстаноўка дошкі тым, што менавіта каля гэтай вёскі ў 1942 годзе ўзнік першы аддзел УПА.*

*Украінская паўстанцкая армія з'яўлялася ўзброеным крылом Арганізацыі украінскіх нацыяналістаў (бандэраўскага руху).*

*У лісце да Лукашэнкі дэпутат адзначае, што фонд, які ён узначальвае, займаецца даследаваннем і папулярызацыяй гісторыі ўкраінскіх земляў і выдаў насценную карту дзейнасці Украінскай паўстанцкай арміі: "На карце выразна відаць, што дзейнасць УПА распаўсюджвалася на тэрыторыю сучаснай Беларусі, а менавіта на поўдзень Брэсцкай і Пінскай абласцей. Аднак адкрыццём стала тое, што першае падраздзяленне УПА ў кастрычніку 1942 года было створана ў лесе паблізу вёскі Дзівін Кобрынскага раёна. Аказваецца, менавіта адсюль бярэ пачатак гісторыя стварэння УПА. Тут дзейнічаў першы аддзел, пасля сотня УПА пад камандаваннем Сяргея Качыньскага".*

*Афіцыйная беларуская гісторыя гэты факт замоўчвае.*

***"Народная Воля" пацікавілася ў прадстаўнікоў грамадскасці, хто, на іх думку, з беларусаў, якія змагліся супраць савецкай улады, заслугоўвае помніка? І ці падрыхтавана наша грамадства ўшаноўваць памяць такіх асоб?***

**Сяржук БАХУН, сябра праўлення "Цэнтра падтрымкі чарнобыльскіх ініцыятыў":**

— З тых, хто змагаўся са зброяй у руках, на мой погляд, вартыя добрага ўспаміну і ўдзячнасці ад народа Беларусі слуцкія паўстанцы. Яны сапраўды змагаліся за незалежнасць, за нашу дзяржаву і заслугоўваюць, каб іх ушанаваць. Канкрэтнай асобы сярод іх я вылучыць не магу, бо гэта была група людзей, якія здолелі аб'яднацца і адстойвалі свае інтарэсы.

Што тычыцца падрыхтаванасці людзей да ўсталявання падобных помнікаў, то я лічу, што наша грамадства трошкі лепшае, чым мы пра яго думаем. Любы беларус трымае сякеру пад лаўкай і мае сваё меркаванне. Канешне, дзяржаўныя СМІ спрабуюць маніпуляваць грамадскай думкай, але шмат беларусаў цвяроза ацэньваюць нашу гісторыю і рэальна разумеюць пра злачынствы не толькі фашызму, але і камунізму. Таму я думаю, што людзі павінны нармальна паставіцца да ініцыятывы ўшанаваць тых, хто змагаўся супраць савецкай улады. А калі казаць пра слуцкіх паўстанцаў, то пра іх нават дзяржаўнае тэлебачанне фільмы здымае.

**Аляксандр ПАШКЕВІЧ, гісторык:**

— На мой погляд, сённяшняя беларуская дзяржава не дасць дазвол на ўшанаванне памяці бандэраўцаў. Ці варта ж іх ушаноўваць у нас увогуле — адназначна адказаць на гэта пытанне я не магу, паколькі яно патрабуе дадатковага вывучэння. Дзейнасць бандэраўцаў на тэрыторыі Беларусі нельга назваць да канца даследаванай, і даваць у такой сітуацыі адназначны адказ на пытанне, ці былі яны толькі станоўчымі героямі, я б асабіста не наважыўся. Нават ва Украіне гэта вельмі дыскусійнае пытанне. Таму з помнікамі бандэраўцам на нашай тэрыторыі я асабіста не спяшаўся б. Тым больш што ў нас ёсць у дастатковай колькасці свае ўласныя, беларускія неўшанаваныя героі, дзейнасць якіх куды менш супярэчлівая — тыя ж слуцкія паўстанцы. Вось за неадкладнае ўшанаванне на дзяржаўным узроўні іх я асабіста галасаваў бы абедзвюма рукамі.

Ці падрыхтавана да абмеркавання пытання адносна бандэраўцаў наша грамадства? Думаю, не, бо яго клапоцяць абсалютна іншыя праблемы. У сённяшняй сітуацыі наўрад ці варта перад нашым грамадствам гэтае пытанне і ставіць. Хапае больш надзённых для нас праблем, у тым ліку і гістарычнага характару.

**Андрэй АЛЯХНОВІЧ, краязнаўца:**

— На мой погляд, ужо даўно наспела неабходнасць ініцыяваць адкрыццё памятнага знака альбо памятнай дошкі ўсім тым, хто змагаўся супраць савецкай улады. Прычым я б разглядаў у гэтым кантэксце не толькі партызан, а ўзяў бы больш шырокія межы часу: з 1917-га па 1991 год.

Ці падрыхтавана грамадства да такога кроку? Сапраўды, калі тэму сур'ёзна развіваць, то павінен быць комплекс адпаведных мер. Варта разгарнуць шырокую інфармацыйную кампанію ў прэсе, трэба здымаць фільмы на гэтую тэму, праводзіць "круглыя сталы", дыскусіі з прыцягненнем гісторыкаў, дзяржаўных дзеячаў, краязнаўцаў, палітолагаў і гэтак далей. Тады гэта мае сэнс. А так грамадства не гатова для гэтага. Дошка, помнік альбо памятны знак павінны стаць апафеозам, фіналам усёй гэтай працы. Не так, што адкрыць дошку, а потым тлумачыць людзям, што да чаго. Мы ўжо мелі ў гісторыі такія прыклады, і яны заканчваліся сумна...

**Раман ЦЫМБЕРАЎ, гандляр кнігамі:**

— Так, лічу, што варта было б. Па персонах гаварыць не гатовы, бо не зусім у тэме, але ідэя збольшага мне падабаецца.

**Марына ПУНШЫК, менеджар:**

— На жаль, я не вельмі добра ў школе вучыла гісторыю і цяпер шкадую пра гэта. Мне падабаецца, мы якраз ведаем тых герояў, якіх ушаноўвала савецкая ўлада. Але цяпер вядома, што ёсць і другія. Таму ідэя мне вельмі падабаецца, але, думаю, не я адна не магу пералічыць тых, каму варта было б паставіць помнік. Таму напачатку варта было б правесці шырокую адукацыйную кампанію для грамадства, а потым думаць пра помнікі. Гэта справа не бліжэйшага часу.

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ, кандыдат гістарычных навук:**

— Я паставіла б помнік партызану-зялёнадубцу. Самы пік актыўнасці арганізацыі "Беларуская сялянская партыя Зялёнага Дуба" ("Зялёны Дуб") прыйшоўся на драматычныя 20-я гады мінулага стагоддзя. На абломках Расійскай імперыі нацыянальныя эліты, у тым ліку і беларускія, спрабавалі адбудаваць нацыянальныя дзяржавы. Прадстаўнікі ўзброенай антысавецкай апазіцыі метадамі партызанскай вайны змагаліся за БНР, адзіную і непадзельную Беларусь. Зараз, калі перамога бальшавізму зусім не відавочная, а наадварот, вылезлі на паверхню ўсе негатыўныя наступствы таго брутальнага незаконнага перавароту, у грамадстве адбываецца пераацэнка гістарычнай спадчыны розных палітычных сіл, што шчыравалі ў XX стагоддзі. На мой погляд, ваяры зрабілі не менш, калі не больш, чым палітыкі-балбатуны, якіх хапала і ў тыя часы, для праекта "Вольная Беларусь". Расіяне і ўкраінцы выправілі гістарычную несправядлівасць: ушаноўваюць памяць змагароў з Саветамі, ставяць ім помнікі. З'явілася цікавасць да герояў той эпохі і ў беларусаў, але да мемарыялізацыі яшчэ доўгі шлях.

Нягледзячы на тое, што до гэтага часу ў спісе дзяржаўных святаў затрымаўся дзень Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, а сёлета з помпай будзе адзначацца 95-годдзе, калі разабрацца, каласальнай сацыяльнай катастрофы, у народнай свядомасці даўно адбыўся перагляд сэнсу тых падзей. Гісторыкі, як толькі знік партыйны ідэалагічны кантроль і абрынуліся архіўныя бар'еры, патлумачылі, што ні вялікай, ні сацыялістычнай, ні народнай, ні рэвалюцыяй падзея не была. Ва ўмовах Заходняга фронту адбыўся ваенны пераварот. І самі бальшавікі — прэтэндэнты на ўладу тут, у Беларусі, менавіта так абазначылі сэнс кастрычніка 1917 года. Як гэта ні дзіўна, але і зараз Леніны-Свярдловы-Войкавы-Мясніковы-Кнорыны, знішчальнікі беларускай дзяржаўнасці, у афіцыйнай гістарыяграфіі займаюць месца палітычных і ідэалагічных аўтарытэтаў. Шыльды з іх імёнамі "ўпрыгожваюць" тапанімічную прастору краіны.

Але размова сёння не пра іх. Яны дастаткова часу — амаль цэлае стагоддзе — панавалі ў афіцыйнай дзяржаўнай гісторыі і нашых галовах. Новыя постсавецкія рэаліі выклікалі неабходнасць абнаўлення "гістарычнай памяці". ***Разбурэнне савецкага вобраза гісторыі запатрабавала перагляду і перавызначэння нацыянальнай гістарычнай спадчыны.*** Гэты працэс падараваў шчасце адкрыцця новых герояў. Доўгі час мы ведалі імёны пераможцаў. Але з кім так зацята яны змагаліся? Хто былі гэтыя ворагі савеччыны? Нарэшце сімвалы супраціву, змагання за незалежнасць і дзяржаўнасць Беларусі ў бурлівы час злому царскай імперыі і новых геапалітычных умоў між вялікімі войнамі паўсталі на гістарычнай арэне. Нацыянальныя палітыкі, грамадскія дзеячы, вайскоўцы, паўстанцы і партызаны выкараскаліся з ідэалагічнай абалонкі і павольна засяляюць гістарычную памяць, інтэгруюцца ў досвед мінулага, у асабістыя і сямейныя гісторыі. Пакуль, на жаль, іх няма ў масавай свядомасці. Адукацыя, СМІ транслююць спарахнелыя вобразы савецкіх герояў.

Савецкая версія гісторыі трашчыць па ўсіх швах. Галерэя нацыянальных герояў значна папоўнілася. Народныя важакі паўстанняў і антыбальшавіцкай партызанкі 1918—1925 гг., як толькі ўзрасла наша цікавасць да сваёй несавецкай гісторыі, дастаткова хутка знайшліся ў гістарычнай перспектыве. У той час вялікіх перамен яны змаглі стаць цэнтрамі сілы і ўплыву ў маштабах павета і на большых тэрыторыях. Гэтыя людзі ў асноўным былі мясцовага паходжання, прадстаўнікамі сялянства, з рознымі палітычнымі перакананнямі, але антыбальшавізм аб'ядноўваў іх.

**Марына КОКТЫШ.**

НАДВОР'Е

## *То снег, то дождж*

*На гэтым тыдні чакаецца нестабільнае, складанае і халоднае надвор'е. Пра гэта паведамляе Белгідраметэацэнтр.*

У аўторак на большай тэрыторыі краіны будзе снег і мокры снег, на паўднёвым усходзе — снег з дажджом. На дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра ноччу да мінус 8, днём — ад мінус 3 да плюс 3 градусаў.

У сераду — таксама кароткачасовы снег, мокры снег і снег з дажджом. На дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра ўначы да мінус 5, пры праясненнях — да мінус 8, а ўдзень — ад мінус 3 да плюс 5 градусаў на паўднёвым захадзе краіны.

У чацвер тэмпература пачне расці, снег будзе паступова раставаць. У першы дзень лістапада чакаецца мокры снег і дождж, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература ўначы ад мінус 6 да плюс 1 градуса, удзень — ад мінус 1 да плюс 8 градусаў на паўднёвым захадзе.

У пятніцу таксама ападкі, але гэта ўжо будзе дождж. Тэмпература паветра ўначы — ад мінус 2 да плюс 6, удзень — ад плюс 1 да 12 градусаў на паўднёвым захадзе краіны.



З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Вадзім ДЗЕВЯТОЎСКІ:*

# «Вось будзе сенсацыя, калі дэпутат заваюе медаль на Алімпіядзе»

*Сярэбраны прызёр Гульняў 2008 года, кідальнік молата Вадзім ДЗЕВЯТОЎСКІ стаў дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Спартсмен расказвае “Народнай Волі”, аб чым марыць, што падштурхнула яго ўзяць новую вышыню ў кар’еры і ці будзе ён сумяшчаць палітычную дзейнасць са спартыўнай.*

— У Наваполацку, дзе я балатаваўся, у мяне была каласальная падтрымка з боку людзей, — кажа мой суразмоўца. — Дарэчы, у нас скрыні для галасавання былі празрыстыя, таму назіральнікі маглі бачыць, як сапраўды галасуе народ.

**— Ці зможа дэпутат Дзевятоўскі заставацца яшчэ і спартсменам?**

— Па рэкамендацыі ўрачоў зараз я праходжу медыцынскі агляд. Сказалі, каб шэсць месяцаў наогул не было ніякіх фізічных нагрузак. Так што ў мяне яшчэ ёсць надзея, што ў спорце застануся. Нягледзячы на тое, што адбылося падчас Гульняў у Лондане з маім калегам Іванам Ціханам, якому ўспомнілі нейкія грахі васьмігадовай даўніны. Вельмі трывожны сігнал, улічваючы тое, што мы з Іванам выйгралі судовы працэс у дысцыплінарнай камісіі Міжнароднага алімпійскага камітэта, пасля таго як нас абвінавацілі ва ўжыванні допінгу на Алімпіядзе ў Пекіне. Але цяжка сказаць, ці атрымаецца сумяшчаць дэпутацтва і трэніроўкі. Зараз большая адказнасць перад людзьмі, якія за мяне прагаласавалі. Але канчаткова са спортам я не завязаў. Так і напішыце.

**— Гэта значыць балельшчыкі змогуць вас убачыць на спаборніцтвах?**

— Па-першае, усё будзе залежаць ад курса лячэння і рэкамендацый урачоў. Я ж таму і на Алімпіяду не паехаў — стан здароўя проста не дазваляў. За апошнія два гады мне зрабілі ў пазваночнік амаль 200 уколаў, уяўляеце?! У чэрвені, напярэдадні паездкі ў Лондан, павялічыліся нагрузкі, і спіна не вытрымала. Не дапамаглі ні працэдуры, ні другія захады, што мной прадпрымаліся. Дык вось, калі спіна дазволіць, магчыма, і паспрабую выступаць.



Для мяне спорт застаецца неад’емнай часткай — 28 гадоў жыцця яму аддаў. Ды і не думаю, што ва ўзросце 35 гадоў — канец кар’еры. Так што, паўтаруся, калі здароўе дазволіць, дэпутат Дзевятоўскі будзе трэніравацца з самага ранку і да позняга вечара. Астатні час — парламенцкая дзейнасць.

**— Словам, аб наступнай Алімпіядзе вам, хутчэй за ўсё, давядзецца забыць…**

— Чаму такая катэгарычнасць? Я думаю пра Гульні. Але будзе вельмі складана туды патрапіць ды яшчэ нешта там заваяваць. Блізкія людзі ведаюць, як складана мне давялося ў тыя два гады, калі судзіўся, каб адстаяць сваё добрае імя. Я быў выціснуты, як лімон! Здавалася, што наогул ніколі ўжо не змагу выступаць. Але ж за год аднавіўся, увайшаў, можна сказаць, у суперформу. Толькі траўма перашкодзіла. Так што, калі я буду выступаць на наступных Гульнях (ды яшчэ і медаль заваюю (!)), гэта будзе маленькай сенсацыяй.

**— Сёння некаторыя выказваюцца за тое, каб на заканадаўчым узроўні была ўведзена крымінальная адказнасць за ўжыванне допінгу. Ваша пазіцыя ў гэтым пытанні? Будзеце яго ўзнімаць у парламенце?**

— Перад тым як прымаць любую заканадаўчую ініцыятыву, трэба падумаць, чым гэта можа скончыцца. Я, можа, і за жорсткія санкцыі для тых, хто ўжывае допінг, але вы ўяўляеце, колькі людзей можна падвесці пад крымінальны артыкул?! Сыпануў канкурэнту допінг-прэпарата — і ён, умоўна кажучы, за кратамі. Любога спартсмена можна будзе засадзіць у турму элементарна. Як улічыць усе гэтыя тонкія моманты ў законе? Хто будзе на сябе браць расследаванне справы? Ці будзе яно да канца аб’ектыўным? Усё гэта вельмі складана, бо справа ж ідзе аб лёсах людзей. Да таго ж у спорце прэзумпцыя невінаватасці адсутнічае наогул. Я вам кажу гэта як юрыст, на сваёй шкуры адчуў, калі мы з Ціханам судзіліся і нам давялося даказваць суду сваю невінаватасць. Словам, гэта вельмі далікатнае пытанне. Але з чагосьці трэба пачынаць.

**— Дырэктар Нацыянальнага антыдопінгавага агенцтва Аляксандр Ванхадла заявіў, што ўжо распрацаваны папраўкі ў Крымінальны кодэкс, якія ўводзяць адказнасць за схіленне непаўнагадовых да прыняцця допінгу.**

— Тое, што зусім маладым спартсменам даюць допінг-прэпараты, — гэта на самай справе злачынства. З такімі фактамі няма будучыні ні ў спорту, ні ў дзяцей. У такім узросце наогул павінна быць мінімальная фармакалагічная падтрымка, каб юны спартсмен адчуў сваю сілу. А ў нас у 12—14 гадоў ужо пачынаюць “напампоўваць”... Хоць, па вялікім рахунку, сучасны дарослы спорт без медыцынскага аднаўлення немагчымы. Ні для каго не сакрэт, што ў свеце працуюць цэлыя інстытуты, каб спартсмен аднаўляўся ў мінімальна кароткі тэрмін пасля вялікіх нагрузак. Мы ў першую чаргу прайграем у методыках. У нас жа школы добрыя, такія ж трэнеры... Неабходны сучасныя распрацоўкі. Вы паглядзіце, колькі алімпійцаў — патэнцыяльных кандыдатаў на медалі не паехалі на Гульні з-за траўм. Чаму? Не па тых методыках працавалі, арганізм не вытрымаў.

**— У СМІ пасля выбараў былі паведамленні, што самы багаты дэпутат, зыходзячы з агучаных заробкаў, — спартсмен Вадзім Дзевятоўскі, які за год меў прыбытак 27 тысяч долараў. Чыталі?**

— Мяне таксама здзівіў рэзананс вакол гэтага факта, бо інфармацыя ж была празрыстая, усе ведалі, што я атрымліваў як прызёр Алімпіяды спецыяльную прэзідэнцкую стыпендыю. З гэтага, уласна, і атрымаўся такі заробак. Іншых крыніц няма, я не займаюся камерцыяй. Праўда, пасля Гульняў гэтую стыпендыю знялі, бо я ж у Алімпіядзе не ўдзельнічаў. Так, былі добрыя грошы, але тут трэба таксама разумець, што ў спартсменаў і затраты вялікія. На тую ж якасную фармакалогію. А на лячэнне колькі пайшло! Я нават суму не хачу называць. Таму ўсё адносна. Любы прафесійны спартсмен мяне адразу зразумее. Ты гадамі трэніруешся, “заганяеш” сваё здароўе дзеля аднаго медаля, вось гэтай стыпендыі. А што далей, пасля спорту? Можаш трэнерам стаць і, калі пашэнціць, падрыхтаваць вучня. І не факт, што гэты вучань цябе потым не пашле куды падалей. Таму праца ў спорце — не з лёгкіх. Але ў мяне заўсёды быў прынцып сумленна рабіць сваю справу. І ў спорце, і ў жыцці.

**Алесь СІВЫ.**

МАЗАІКА

## Паляцелі галовы

*Аляксандр Лукашэнка вызваліў ад займаных пасад міністра спорту і турызму Алега Качана і памочніка прэзідэнта па пытаннях фізічнай культуры, спорту і развіцця турызму Ігара Заічкова. Пра гэта паведамілі ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы.*

Нагадаем, на алімпійскім сходзе Нацыянальнага алімпійскага камітэта, што прайшоў напрыканцы мінулага тыдня, Лукашэнка, які ўзначальвае НАК, жорстка раскрытыкаваў працу па падрыхтоўцы спартсменаў да Гульняў у Лондане.

*“Я, вядома, далёкі ад таго, каб абвінавачваць толькі прысутных тут. Вядома ж, перш за ўсё віна ляжыць на прэзідэнце краіны, не толькі алімпійскага камітэта. Але давайце ўспомнім і аб адказнасці. У прэзідэнта краіны дастаткова паўнамоцтваў і ўлады для таго, кааб, не ўзначальваючы алімпійскі камітэт, запытаць на ўсю катушку з кожнага”,* — сказаў ён.

І нагадаў, што персанальная адказнасць за вынікі ў спартыўнай галіне раней ужо была вызначана па формуле “3+1”: *“Міністр (спорту Алег Качан. — **Рэд.**), Ігар Заічкоў, Сяргей Цяцерын плюс Генадзь Аляксеенка. І тады мы дамовіліся: правал — вы ўсе сыходзіце адпачываць на лаўрах, ці на пенсію, ці на нейкую іншую працу”.*

Цяцерын і Аляксеенка з’яўляюцца віцэ-прэзідэнтамі НАК, Заічкоў дагэтуль быў першым віцэ-прэзідэнтам і памочнікам прэзідэнта па пытаннях фізічнай культуры, спорту і развіцця турызму.

## Без перамог

*У чацвёртым матчы Адзінай лігі ВТБ баскетбольны клуб “Цмокі-Мінск” 28 кастрычніка на сваёй пляцоўцы прайграў любярэцкаму “Триумфу” — 62:85.*



У стартавым паядынку 11 кастрычніка беларуская каманда саступіла дома краснаярскаму “Енисею” (65:79), 15 кастрычніка — “Нижнему Новгороду” — 66:93, 21 кастрычніка — на выездзе “Локомотиву-Кубани” — 74:89.

З 4 ачкамі пасля 4 гульняў “Цмокі-Мінск” займае 9-е месца сярод 10 каманд групы В.

Наступны матч падапечныя Андрэя Крываноса правядуць 31 кастрычніка ў Клайпедзе супраць “Няптунаса”, які замыкае табліцу групы.

## БАТЭ ніхто не дагоніць?

*БАТЭ і “Шахцёр”, якія займаюць першае і другое месцы, атрымалі перамогі ў 29-м туры футбольнага чэмпіянату Беларусі.*

Вынікі матчаў, што прайшлі ў мінулую нядзелю: БАТЭ (Барысаў) — “Брэст” — 3:1, “Тарпеда-БелАЗ” (Жодзіна) — “Шахцёр” (Салігорск) — 0:2, “Нёман” (Гродна) — “Мінск” — 2:1.

Напярэдадні мінскае “Дынама” выйграла ў “Славіі” (Мазыр) — 4:2, а бабруйская “Белшына” — у наваполацкага “Нафтана” — 3:2.

Становішча каманд: БАТЭ — 61 ачко (26 гульняў), “Шахцёр” — 54 (26), “Дынама” — 49 (27), “Гомель” — 44 (25), “Мінск” — 34 (26), “Нёман” — 32 (26), “Славія” — 25 (26), “Брэст” — 25 (26), “Белшына” — 25 (26), “Тарпеда-БелАЗ” — 24 (27), “Нафтан” — 23 (27).

Наступны тур пройдзе 3—4 лістапада: “Нафтан”—БАТЭ, “Мінск”—”Белшына”, “Славія”—”Нёман”, “Шахцёр”—”Дынама”, “Гомель”—”Тарпеда-БелАЗ”.

## Азаранка — першая. Уільямс — лепшая

*Беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка ў паўфінале выніковага тэніснага турніру ў Стамбуле з прызавым фондам 4,9 млн долараў прайграла расіянцы Марыі Шарапавай — 4:6, 2:6.*

Нягледзячы на паражэнне, беларуская спартсменка застанецца на чале рэйтынгу ВТА. А перамогу на турніры атрымала амерыканка Серэна Уільямс, якая ў фінале перамагла Шарапаву — 6:4, 6:3, паведамляе БелаПАН.

ПО ПОВОДУ

# Футбол — не карточная игра

*Давайте задумаемся: почему вот уже несколько десятилетий руководители нашего футбола стремятся развивать его, ориентируясь на высокий международный уровень, но основные проблемы остаются все те же?*

Я не утверждаю, что руководители Федерации футбола, которых время от времени меняют, вообще ничего полезного не сделали. Но, как мне кажется, ни один из них до логического завершения не довел решение такого фундаментального вопроса, как создание современной материальной базы. В данном случае речь идет о стадионах с искусственным подогревом и хорошим освещением футбольного поля.

Да, скоро начнется реконструкция столичного “Динамо”. Но, чего греха таить, ведь многие стадионы, на которых сегодня проходят матчи команд высшей лиги (не говорю уже о других лигах) лишены этих необходимых условий. Обратите внимание, в каких условиях работают некоторые детские футбольные школы.

Позволю себе привести только один пример. О каком поступательном развитии футбола может идти речь, если и сейчас юные динамовские футболисты проводят тренировки в Минске на асфальте? Разве создание современных условий для детского футбола не входит в обязанности федерации?

Не так давно председатель Федерации футбола Сергей Румас заявил, что у нас достаточно высокий уровень национального чемпионата. Позвольте, но по каким показателям это определялось? О высоком уровне чемпионата можно говорить тогда, когда на трибунах, как говорят, яблоку негде упасть. А у нас футболисты хорошо если при полупустых трибунах играют.

Я долгие годы работал на минском стадионе “Динамо”, когда там проходили матчи чемпионата Союза. Билет на футбол трудно было купить, болельщики заполняли стадион под завязку. Вот тогда был действительно уровень! А сегодня у нас доигрались до того, что Витебск и Могилев, имея многие тысячи болельщиков, остались без команд в высшей лиге. В минском “Динамо” сменилось уже более 20 тренеров, и это, видимо, еще не предел. Разве что-то подобное можно увидеть в ведущих футбольных странах?

На мой взгляд, в футболе должны работать только профессионалы. Вот тогда мы на самом деле сможем вывести белорусский футбол на высокий международный уровень!

**Юрий ЯСИНСКИЙ, ветеран спорта, заслуженный тренер БССР.**

ШАШКІ

## Вядучыя праблемісты

Мінчане Анатоль Шабалін, Віктар Шульга, Васіль Грабенка, Аляксандр Сапегін (Усполле Мсціслаўскага раёна), Мікалай Баброўнік (Мазыр), Пётр Шклудаў з Наваполацка, Аляксандр Ляхоўскі з Жодзіна, Мікалай Зайцаў з Баранавічаў і замежныя стваральнікі 100-клетачных кампазіцый Уладзімір Матус (Расія), Аляксандр Маісееў (ЗША), Міхаіл Цветаў (Ізраіль), якія паходзяць з Беларусі, з’яўляюцца вядучымі праблемістамі. Так, А.Шабалін — дзеючы пераможца планетарнага першынства па складанні задач. У дзясятку мацнейшых таксама ўвайшлі М.Баброўнік і П.Шклудаў (4—5-е месцы) , А.Ляхоўскі (8-е) і М.Зайцаў (9-е). У ЧС-2 (эцюды) вызначаліся А.Маісееў (2-е месца), В.Грабенка (4-е), М.Цветаў (5-е) і Л.Вітошкін з Гомеля (8-е). Прызёрамі былі: В.Шульга — трэцім у раздзеле малых камбінацыйных праблем і А.Сапегін — пятым.

Падведзены канчатковыя вынікі і ЧС-4 (сярэднія праблемы). У ім У.Матус заваяваў залаты медаль, А.Маісееў фінішаваў чацвёртым, М.Цветаў — шостым, А.Сапегін — сёмым. Пазнаёмцеся з іх творамі:

1 (У.Матус). **Белыя**: 11, 16, 17, 20, 21, 24, 25, 34, 40, 41, 44, 48 (12). **Чорныя**: 5, 6, 9, 10, 13, 14, 22, 23, 28, 35, 36, 38 (12). 87 ачкоў па змесце: 30, 43, 15, 4, 39, 33, 10, 3, 44, 27, 27х.

2 (А.Маісееў). **Белыя**: 17, 21, 24, 28, 30, 33, 39, 41, 42, 43 (10). **Чорныя**: 7, 8, 9, 10, 12, 18, 25, 26, 34, 36 10). 75,67 ачка: 23, 38, 19, 13, 8, 2 (21ABCDE) 12х. A(19-23) 15х. B(15) 4х. C(18-22) 1х. D(10-14) 14 х. E(11) 21/26х.

3 (М.Цветаў). **Белыя**: 19, 21, 23, 25, 27, 28, 29, 33, 44, 46, 47, 48 (12). **Чорныя**: 9, 10, 12, 14, 16, 17, 20, 26, 35, 37, 38, 42 (12). 73 ачка: 40, 43, 38, 38, 32, 31, 18 (12:32/34**A**) 41, 3, 5х. **A**(14:32/34) 3, 3:21:5 (42) 37, 41х.

4 (А.Сапегін). **Белыя**: 9, 13, 14, 20, 26, 37, 41, 43, 45, 46, 47 (11). **Чорныя**: 4, 16, 17, 21, 28, 31, 34, 35, 36, 40, 44 (11). 80 ачкоў: 10, 4, 38, 41, 6(49)17 (40-44) 40 (50) 17-11, 1, 45х.

Дзіцячыя і юнацкія гады У.Матус і М.Цветаў правялі адпаведна на Гродзеншчыне і Віцебшчыне, і Беларусь яны лічаць сваёй радзімай. Маці А.Маісеева — з Мазыра, дзе да прыходу савецкай улады яе бацька быў купцом 2-й гільдыі. Вядомыя праблемісты пачыналі займацца шашкамі на 64-клетачнай дошцы.

## Разгледзьце ранні эцюд У.Матуса:



**Белыя**: дамкі a7, f2, h8 (3). **Чорныя**: d8, дамкі a1, a5 (3). Выйгрыш.

## Рашаем разам

**“Спаборніцтвы пінчукоў”** (П.Шклудаў): ef8, b4, b2, f8, f4 (e5) f8, g3, d8 (de3) h4 (d2 A) f6, c1+. A(d4) b4 (c3/g3) e1+.

КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталі**: 5.Што не трэба егіпцянам плаціць за недабудаваную нерухомую маёмасць, у сувязі з чым дахі амаль ва ўсіх дамах недароблены? 7.Хто з беларусаў напісаў восем варыянтаў працягу кнігі М.Мітчэл “Знесеныя ветрам”, якія перакладалі літаральна па ўсім свеце? 9.Старажытны металічны шлем. 10.Горад на тэрыторыі сучаснай Беларусі, які першым атрымаў Магдэбургскае права. 14.Шлюбная пярынка белай чаплі, што ўпрыгожвае капялюшык модніцы. 15.Што, заканадаўча зацверджанае на міжнародным узроўні, вельмі строга выконваецца пры вытворчасці віскі? 19.Грашовая ўзнагарода (100 тысяч долараў), што атрымлівае знакаміты матадор на вялікай арэне за адзін паядынак. 21.Якая рыба выконвае магічную ролю ў шаманаў у рытуале выгнання злых духаў? 22.Волат, чый сцяг стаў дзяржаўным сімвалам Кіргізіі. 27.Аўцюкоўская жанчына ў пары з Каласком. 31.Мясны выраб, якім частаваў Вараб’янінаў Лізу ў рэстаране “Прага”. 32.Дзіцячы часопіс, у якім працавала Зоська Верас. 34.Рака, услаўленая Янкам Купалам. 35.Якая кветка пры дарэнні падае тайны знак “Я прапаноўваю табе сяброўства замест кахання”? 37.Кампазітар; падчас паўстання 1794 года ўваходзіў у склад кіраўнічага органа — Найвышэйшай Рады ВКЛ. 38.Вялікапакутніца, дзень ушанавання якой 17 снежня; у гэты дзень продкі раілі: “Сцеражы нос дый вуха”.

**Па вертыкалі**: 2.Прычоска “пад бокс”. 3.Ганаровая назва выдатных музыкантаў, жывапісцаў. 5.Пасада кампазітара Восіпа Казлоўскага ў доме магнатаў Агінскіх. 8.Салдацкая пасудзіна. 11.Выпраўленне малюнкаў, адбітка на фатаграфічных негатывах, здымках. 12.Вяслярны вадаём у Брэсце. 13.Дрыгва. 16.Кандытарскі выраб; у часы мушкецёраў выкарыстоўваўся як лячэбны сродак. 17.Жанчына, што мае аскетычны лад жыцця, якую не жадае сустрэць веруючы італьянец, каб удача не адвярнулася ад яго. 23.Дакумент аб страхаванні. 24.Населены пункт, дзе ад 1912-га да 1914 года Якуб Колас выкладаў у рэальным вучылішчы. 25.Скамянелая смала, у якой знайшлі мурашку, што завязла 35 мільёнаў гадоў таму. 26.Сямідзесяціградусная гарэлка ў ВКЛ, што пачаткова ўжывалася як аптэчны сродак. 28.Тэрыторыя Зямлі, якую даследаваў Нобелеўскі лаўрэат Ф.Нансен. 29.Жанчына, прафесія якой выконваць ролі у спектаклях. 30.Надзвычайна маленькая птушка з яркім апярэннем.

**Па дугах**: 1.Учынак І.Мазепы адносна Пятра I, за які праваслаўная царква абвясціла ўкраінскаму гетману анафему. 4.Што, па народных уяўленнях, назаўсёды пакідае таго, хто забіў жорава? 6.Самая прыгожая рыба нашых азёр і няхуткіх рэк. 18.Скульптар; разам з мужам стварыла манументальную кампазіцыю ў Глыбокім, дзе Якуб Колас прадстае ў час яго маладосці. 20.Нелегальная справа, якой займаліся персанажы твораў вядомага польска-беларускага пісьменніка Сяргея Пясецкага. 33.Беларус, якога шануюць гісторыкі Вялікабрытаніі як англійскага першадрукара. 36.Цырымонія. 38.Хто прысвяціў верш “Дачка фараона” расійскай актрысе Людміле Максакавай?

**Ала АДАМАЙЦІС.**

## Адказы на крыжаванку:

**Па гарызанталі**: 5.Падатак. 7.Адамчык. 9.Шышак. 10.Брэст. 14.Эгрэтка. 15.Правіла. 19.Ганарар. 21.Сазан. 22.Манас. 27.Калінка. 31.Сасіска. 32.“Заранка”. 34.Арэса. 35.Язмін. 37.Агінскі. 38.Варвара. **Па вертыкалі**: 2.Стрыжка. 3.Маэстра. 5.Педагог. 8.Кацялок. 11.Рэтуш. 12.Канал. 13.Твань. 16.Шакалад. 17.Манашка. 23.Поліс. 24.Пінск. 25.Янтар. 26.Аквіта. 28.Арктыка. 29.Актрыса. 30.Калібры. **Па дугах**: 1.Здрада. 4.Шчасце. 6.Краснапёрка. 18.Грушчанкова. 20.Кантрабанда. 33.Літвін. 36.Рытуал. 38.Вазнясенскі.

*Калектыў газеты “Народная Воля” выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы рэдакцыі **Але Іванаўне Герасіменка** ў сувязі з яе вялікім горам — смерцю **брата Міхаіла**.*

**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906 nv@promedia.by http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya**

ISSN 2071-9647

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 29.10.2012 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27100 экз. Заказ №4475.**